● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

28 снежня 1996 г. субота, № 298 (23101)



# ЗВЯЗДА

## ЯКОЙ БУДЗЕ НАВАГОДНЯЯ НОЧ?

Зіма адыходзячага года спачатку ніяк не стасавалася з календаром, бо ўстойлівыя паўднёвыя патокі прыносілі толькі туманы, галалёд, нярэдка ападкі і па-асенняму высокія тэмпературы. Але к сярэдзіне месяца паўднёвыя вятры змяніліся паўночна-заходнімі, пачало падмарожваць. На пачатку ж апошняй пяцідзёнкі снежня зіма як бы спахапілася і вырашыла імкліва навярстаць упушчаны час. А дапамагло ёй у гэтым суровае дыханне Арктыкі. Асабліва сцюдзёнай была ноч на 27 снежня, калі маразы даходзілі да 25--30, дзе-нідзе -- нават да 32-33 градусаў. У Мінску ртутны слупок апусціўся да адзнакі —28. Але зямля надзейна прыкрыта снегам. Паводле апошніх даных, вышыня снежнага покрыва большая ў Віцебскай і Мінскай абласцях -- ад 10 да 25 см, крыху меншая -- ад 9 да 18 см -- у Гродзенскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, а ў Брэсцкай -- ад 5 да 10 см. Рэкі ж надзейна скаваныя льдом таўшчынёй ад 10 да 25 см.

Але ўсіх, вядома, больш за ўсё цікавіць тэмпература ў ноч на 1 студзеня. Аналізуючы навагодняе надвор'е ў нашай сталіцы за апошнія 15 гадоў, яшчэ раз пераконваешся, наколькі яно непастаяннае і капрызлівае. Так, у 1980 годзе ў пераднавагоднюю ноч тэрмометры паказалі мінус 4°, ішоў слабы снег, а ў навагоднюю ноч тэмпература павысілася да плюс 1°, снег змяніўся даждЖом. Аналагічнай была навагодняя ноч у 1990 і 1993 гадах. 12 градусаў марозу і слабы снег былі ў 1991 годзе. І зусім па-зімоваму марознай з ясным і зорным небам была гэта ноч у 1985 і 1992 гадах, калі падмарозіла да 16 і 29 градусаў адпаведна. Навагодняя ноч адыходзячага года была ціхай, а мароз узмацніўся да 22 градусаў.

І ўсё ж, што нам абяцае навагодняя ноч 1997 года? Згодна з папярэднім прагнозам, маразы аслабнуць, тэмпература ўначы -- 11--16, днём 6 -- 11 градусаў марозу. Нягледзячы на халоднае надвор'е, сіноптыкі жадаюць усім шчаслівага Новага года.

**Вера ЧЫЖЫК.**

## *ЯГО ПРАВАСХАДЗІЦЕЛЬСТВУ ПАНУ А.Р.ЛУКАШЭНКУ, ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

***г.Мінск***

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч,

Пяць гадоў таму была ўтворана Садружнасць Незалежных Дзяржаў. За гэтыя нямногія, але вельмі насычаныя гады нам у выніку калектыўных намаганняў удалося стварыць новую сістэму супрацоўніцтва дзяржаў на аснове прынцыпаў узаемнай выгады, раўнапраўя і павагі суверэнітэту адна адной.

На змену перыяду размежавання прыходзіць разуменне таго, што збліжэнню ў эканоміцы, навуцы, культуры і ў іншых сферах няма альтэрнатывы.

Праз шматлікія цяжкасці шляхам складаных пошукаў, проб і памылак мы год за годам ідзём да стварэння ўсё больш эфектыўнай інтэграцыйнай прасторы.

Асабліва хачу адзначыць, што ў час старшынствавання Расіі ў статутных органах СНД я заўсёды адчуваў Вашу асабістую падтрымку і садзейнічанне агульнаму поспеху.

Сёлетні год у СНД азнаменаваны гістарычным крокам -- узнікненнем Супольніцтва Расіі і Беларусі, у якім працэсы эканамічнага супрацоўніцтва набываюць паскораны характар. Упэўнены, што інтэлектуальны і навуковы патэнцыял нашых краін дасць магчымасць вырашыць пастаўленыя маштабныя задачы.

Шчыра жадаю асабіста Вам, Аляксандр Рыгоравіч, і ў Вашай асобе брацкаму народу Беларусі поспехаў, дабрабыту і працвітання.

***г.Масква, Крэмль***
***17 снежня 1996 года*** ***Б.ЕЛЬЦЫН***

## НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА ГОДА ЛЕАНІД КУЧМА ПАЖАДАЎ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ ДАБРАБЫТУ

Па просьбе Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ва Украіне Віталя Курашыка 26 снежня яго прыняў Прэзідэнт гэтай краіны Леанід Кучма.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў пасольстве нашай рэспублікі ва Украіне, Віталь Курашык уручыў Леаніду Кучму пасланне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з завяршэннем вываду з беларускай тэрыторыі ядзернай зброі. Пасол праінфармаваў кіраўніка суседняй дзяржавы аб тым, што гэтым гістарычным крокам Беларусь стварае добрую аснову для рэалізацыі ініцыятывы, накіраванай на стварэнне бяз'ядзернай прасторы ў цэнтры Еўропы. Пры гэтым дыпламат выказаў надзею, што пазіцыя нашай краіны будзе ацэнена і падтрымана міжнародным супольніцтвам.

У ходзе праведзенай сустрэчы былі таксама абмеркаваны пытанні, якія датычаць развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Віталь Курашык, у прыватнасці, адзначыў, што пэўная халоднасць, якая назіраецца ў адносінах паміж Украінай і Беларуссю, адмоўна адбіваецца на далейшым росце тавараабароту, а гэта наносіць урон абедзвюм рэспублікам.

На заканчэнне гутаркі Леанід Кучма пажадаў беларускаму народу дабрабыту. Ён выказаў пажаданне актывізаваць кантакты з кіраўніком беларускай дзяржавы.

**БЕЛТА.**

## СТАЛІЧНАЯ ВОБЛАСЦЬ НАЗЫВАЕ СВАІХ ПРАДСТАЎНІКОЎ У САВЕТ РЭСПУБЛІКІ

Выбары прадстаўнікоў сталічнай вобласці ў састаў Савета Рэспублікі -- галоўная тэма парадку дня абласнога сходу дэпутатаў раённых і гарадскіх Саветаў Міншчыны, які адбыўся 27 снежня. У ім прыняў удзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. На сходзе прысутнічалі таксама намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Замяталін, кіраўнікі выканаўчых камітэтаў, іншыя кіруючыя работнікі.

Як паведаміла старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына, пасля праверкі матэрыялаў па вылучэнню кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі ад Мінскай вобласці, што паступілі ад прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведных выканаўчых камітэтаў вобласці, Цэнтрвыбаркам устанавіў, што вылучэнне праведзена ў адпаведнасці з патрабаваннямі Канстытуцыі і Палажэннем аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, зацверджанага дэкрэтам Прэзідэнта. Усе кандыдаты -- грамадзяне Беларусі, яны ва ўзросце больш за 30 гадоў, пражылі на тэрыторыі вобласці не менш як 5 гадоў. У сувязі з гэтым Цэнтрвыбаркам лічыць правамоцным вылучэнне ў члены Савета Рэспублікі наступных кандыдатаў ад Мінскай вобласці: Аляксандра Акуліча -- дырэктара саўгаса-камбіната «Барысаўскі», Галіны Галай -- намесніка дырэктара па навучальнай рабоце Салігорскага педагагічнага каледжа, Таццяны Дамарацкай -- старшыні камітэта па справах моладзі Мінскага аблвыканкома, Вольгі Івановай -- дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства (швейная фірма «Юнона»), Аляксандра Корчміда -- старшыні праўлення калектыўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства агракамбіната «Сноў», Пятра Пётуха -- старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Анатоля Рубаніка -- старшыні Клецкага раённага выканаўчага камітэта, Альфонса Цішкевіча -- старшыні Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Звяртаючыся да ўдзельнікаў сходу, Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў гэтыя дні адбываецца фарміраванне Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу. Паводле яго слоў, дэпутаты павінны не толькі валодаць адпаведнай кваліфікацыяй, але і добра ведаць становішча спраў на месцах, праблемы рэгіёнаў, бачыць шляхі іх вырашэння.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 561

## АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1996 ГОДА

Разгледзеўшы матэрыялы, прадстаўленыя Камітэтам па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

1. Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь 1996 года ў галіне навукі і тэхнікі, а таксама ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры згодна з дадаткамі 1 і 2 .

Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры імя Янкі Купалы ў 1996 годзе не прысуджаць.

2. Устанавіць у 1996 годзе памер Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 200 мінімальных заработных плат.

3. Вызваліць асоб, прэміраваных у адпаведнасці з гэтым Указам, ад выплаты падаходнага падатку з грамадзян па сумах атрыманых прэмій.

4. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь правесці выплату прэмій у адпаведнасці з гэтым Указам.

Міністэрству фінансаў выдзеліць Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь грашовыя сродкі на выплату названых прэмій.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

24 снежня 1996 г., г.Мінск.

**(Чытайце 2-ю стар.)**

## ... МЫ СПАДЗЯЁМСЯ, ШТО МАША БУДЗЕ БАЧЫЦЬ СВЕТ

**Кожная бяда мае свой індывідуальны характар. Кожная бяда ўпартая ў барацьбе. Нялёгка адолець гора, бяду. Такую бяду, з якой жыве чатырохгадовая мінчанка Маша, адолець надзвычай цяжка.**

Маша нарадзілася з гіпатрафіяй І-й ступені. У дзяўчынкі — шматлікія недахопы развіцця: высокае гатычнае паднябенне, адсутнасць пераносся, шырока расстаўлены вочы, двухбаковы птоз (не адкрываюцца павекі), дэфармацыя вушных ракавін... Да гэтага пераліку можна яшчэ дадаваць і дадаваць хваробы дзіцяці. Даведаўшыся ўсё гэта пра Машу, першае, што падумаў: як цяжка, з якім вялікім болем жывуць яе бацькі. Асабліва ж — маці. Ды следам даведаўся наступнае: бацькі Машы загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Зусім нядаўна загінулі — 24 лістапада. Зараз дзяўчынка жыве з бабуляй — Клаўдзіяй Міхайлаўнай.

Яшчэ раней Машу глядзелі маскоўскія спецыялісты. Урачы мяркуюць, што для аперацыі на вачах магчымы станоўчы вынік. Гавораць, што звычайна ў 70 працэнтах падобных аперацый магчымы поспех. За мяжою медыцына гарантуе 95 працэнтаў удачы. Калі была жывая мама дзяўчынкі, то звярталіся і ў Міністэрства аховы здароўя, і ў розныя дабрачынныя фонды. Падтрымкі бацькі Машы не знайшлі. Аперацыя каштуе вялікіх грошай — і знайсці замежных партнёраў у гэтай справе няпроста. Сёння за вырашэнне праблемы ўзяўся Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля».

— Мы проста не можам пакінуць дзяўчынку ў такім горы, — гаворыць Ірына Грушавая. — Наш фонд дапамагаў наладжваць падобныя аперацыі. І ў выпадку з Машай мяркуем, што ўсё атрымаецца. Ёсць папярэдняя дамоўленасць з замежнымі ўрачамі.

Як жа пройдзе тая аперацыя?.. Дай Бог, каб усё склалася шчасліва, каб Маша бачыла свет такім жа, якім мы ўсе яго бачым. Бабулі Машы — Клаўдзіі Міхайлаўне — мы жадаем мужнасці і цярплівасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

# СТАЛІЧНАЯ ВОБЛАСЦЬ НАЗЫВАЕ СВАІХ ПРАДСТАЎНІКОЎ У САВЕТ РЭСПУБЛІКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Сярод кандыдатаў у члены верхняй палаты — настаўнікі, інжынеры, кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і іншыя паважаныя людзі. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што яго радуе той факт, што ў састаў Савета рэспублікі рэкамендавана 30 працэнтаў жанчын, якія, паводле яго слоў, павінны, нарэшце, заняць дастойнае месца ў органах дзяржаўнай улады. «Не сумняваюся, што гэтыя кандыдатуры будуць дастойна прадстаўляць Мінскую вобласць у верхняй палаце парламента рэспублікі», — сказаў ён.

Гаворачы аб мэтазгоднасці выбрання дзвюхпалатнага парламента, Прэзідэнт падкрэсліў, што Палата прадстаўнікоў будзе ствараць законы, а Савет рэспублікі — выступаць у ролі эксперта, адхіляючы або прымаючы гэтыя законы. Акрамя таго, верхняя палата будзе ўдзельнічаць у правядзенні кадравай палітыкі, даючы згоду Прэзідэнту на назначэнне вышэйшых службовых асоб.

Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, ніжняя палата, якая сфарміравана раней, працуе вельмі эфектыўна. «Першыя дні работы Палаты прадстаўнікоў паказалі, што ў нас ствараецца дзеяздольны заканадаўчы орган, які ў корані адрозніваецца ад Вярхоўнага Савета апошняга склікання, — сказаў Прэзідэнт. — Без лішняга пустаслоўя дэпутаты Нацыянальнага сходу прыступілі да заканатворчай работы, абмеркавання важных для грамадства праблем. Гэта не можа не радаваць. Цяпер перад намі стаіць яшчэ адна важная задача — сфарміраваць паўнацэнную, па-сапраўднаму кампетэнтную верхнюю палату Нацыянальнага сходу».

Асаблівую ўвагу ў сваёй прамове кіраўнік дзяржавы ўдзяліў і дзейнасці дэпутатаў Саветаў усіх узроўняў, ролі мясцовых органаў улады ў вырашэнні праблем эканомікі і сацыяльнай абароны грамадзян. Ён адзначыў, што нягледзячы на цяжкасці, у гэтым годзе адбыліся пэўныя пазітыўныя зрухі ў эканоміцы. Як паказвае аналіз, асноўныя параметры сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1996 год будуць не толькі выкананы, але і перавыкананы. Галоўная задача ўсіх органаў улады дзяржаўнага кіравання — замацаваць станоўчыя тэндэнцыі. Іншага шляху няма: трэба зніжаць сабекошт, павялічваць аб'ёмы вытворчасці. Аляксандр Лукашэнка заявіў аб тым, што кіраўніцтва краіны не мае намеру ісці на бяздумнае рэфарміраванне, якое закранае інтарэсы мільёнаў простых грамадзян. Клопат аб чалавеку працы па-ранейшаму застанецца прыярытэтнай палітыкай дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка заклікаў дэпутатаў і кіраўнікоў вертыкалі Мінішчыны зрабіць усё неабходнае, каб у наступным годзе людзі сталі жыць лепш. Ён падкрэсліў, што будзе ацэньваць работу кіраўнікоў па канкрэтных выніках. Прэзідэнт спадзяецца на плённую сумесную работу ўсіх галін улады і са свайго боку паабяцаў зрабіць для гэтага ўсё неабходнае.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

# АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ДАЎ ІНТЭРВ'Ю ЛАТВІЙСКІМ ЖУРНАЛІСТАМ

**Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю латвійскай тэлекампаніі «Альтэр А» для перадачы «З пазіцыі ўлады» і карэспандэнтам буйнейшых латвійскіх газет - «Дыена», «Бізнес і Балтыя», «Рыгас Балс», «Советская молодежь».**

Пытанні латвійскіх журналістаў да кіраўніка дзяржавы закранулі стан інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй, палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва нашай рэспублікі з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, развіцця беларуска-латвійскіх адносінаў.

Прэзідэнт цёпла павіншаваў латышскіх тэлегледачоў і чытачоў газет з Новым годам, пажадаў народу Латвійскай Рэспублікі міру, шчасця і працвітання.

**БЕЛТА.**

# ЯКІМІ БУДУЦЬ ПЕНСІІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ?

**З першых чыслаў надыходзячага года пачынае дзейнічаць Закон Рэспублікі Беларусь ад 6 лістапада 1996 г. «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні». Гэтым законам зменена рэдакцыя часткі другой артыкула 56 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні», якая рэгулюе парадак вызначэння сярэднемесячнага заробку для разліку пенсіі. Як будуць разлічвацца пенсіі па новаму механізму, расказвае намеснік начальніка праўлення пенсій і дапамог Мінсацабароны Валянціна КАРАЛЁВА.**

Згодна са старой рэдакцыяй часткі другой артыкула 56 Закона, абмежавальнікам заробку, прымаемага для налічэння пенсіі, з'яўлялася мінімальная заработная плата. Калі яна працяглы час заставалася нязменнай, стрымліваўся рост верхняй мяжы заробкаў і, адпаведна, максімальных пенсій. У перыяд паміж павышэннем велічыні мінімальнай заработнай платы пры росце сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы адбывалася збліжэнне памераў мінімальных і максімальных пенсій, што негатыўна ўспрымалася пенсіянерамі, якія мелі да назначэння пенсіі больш высокі заробак. У апошні час асобы, якія атрымлівалі да выхаду на пенсію высокі заробак у сувязі з выкананнем больш адказнай, складанай работы, што патрабуе адпаведнай кваліфікацыі, атрымлівалі пенсіі, роўныя пенсіям асоб, якія выконвалі некваліфікаваныя работы і працавалі менш. Новы механізм дасць магчымасць узмацніць дыферэнцыяцыю памераў пенсій зыходзячы з наяўнага ў пенсіянера стажу і заробку да выхаду на пенсію і такім чынам крыху лепшш, чым раней, адлюстраваць у памеры пенсіі асабісты працоўны ўклад.

Сутнасць прынятага змянення заключаецца ў тым, што з 1 студзеня 1997 года для налічэння пенсіі будзе прымацца заробак не вышэй як 130 працэнтаў сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы, якая прымяняецца для карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянера пры пераразліку пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы. Заробак у межах дзесяці працэнтаў указанай велічыні ўлічваецца поўнасцю, а ў межах кожных наступных дзесяці працэнтаў— адпаведна ў памеры 90, 80, 70, 60, 50, 40, 30, 20 і 10 працэнтаў. Атрыманая такім чынам сума лічыцца заробкам, з якога налічваецца пенсія. Заробак, які перавышае 130 працэнтаў сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы, пры налічэнні пенсіі не ўлічваецца.

А цяпер аб налічэнні пенсій у студзені 1997 года з улікам Закона ад 6 лістапада 1996 г. і прынятай 24 снежня 1996 г. пастановы ўрада Рэспублікі Беларусь № 826 «Аб пераразліку пенсій у студзені 1997 года». Згодна з названай пастановай урада, пры назначэнні і пераразліках пенсій у студзені 1997 года прымяняецца сярэдняя заработная плата рабочых і служачых за лістапад 1996 года, якая склала 1.394.649 рублёў.

Парадак карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянера не змяніўся. Як вядома, «асучасніванне» заробку ажыццяўляецца з выкарыстаннем індывідуальнага каэфіцыента заробку пенсіянера.

Разгледзім на канкрэтным прыкладзе новы механізм разліку заробку для налічэння пенсій у студзені.

Напрыклад, агульны працоўны стаж грамадзяніна К. складае 45 гадоў, індывідуальны каэфіцыент яго заробку — 1,40812. Заробак гэтага пенсіянера, прыведзены да сучаснага ўзроўню, у студзені 1997 года складзе 1.963.833 руб. (1.394.649 x 1,40812).

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

# НОВЫ ГОД: ШТО БУДЗЕ НА СТАЛЕ

**Як паведаміў «Звяздзе» прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Лявонаў, згодна з распараджэннем Прэзідэнта краіны і ў мэтах забеспячэння патрэб насельніцтва, уся прадукцыя Мінскага завода шампанскіх він павінна ісці толькі на ўнутрырэспубліканскі рынак, праўда, толькі да Новага года. Цана святочнага напою пакуль застаецца ранейшай — 52 тысячы рублёў за бутэльку. У магазінах шампанскага ад гэтага пакуль не паболела, але ёсць шанц, што яшчэ пашчасціць, бо да свята засталося некалькі дзён.**

Што датычыцца забеспячэння насельніцтва смятанай, па словах спадара Лявонава, дэфіцыт з гэтым прадуктам назіраецца толькі ў дачыненні да сталіцы. У сувязі з гэтым кіраўніцтву Міністэрства гандлю ўдалося дамовіцца з гаспадаркамі Мінскай вобласці аб дадатковых пастаўках гораду малака за кошт «унутраных рэзерваў». Плануецца, што дзякуючы прынятым мерам Мінск у хуткім часе атрымае дадатковыя аб'ёмы смятаны і тварагу.

Не была пакінута па-за ўвагай і праблема з маслам. Як паведаміў прэс-сакратар, на холадакамбінаты краіны з-за межаў Беларусі паступіла дадаткова 300 тон масла. Закупачныя цэны на яго ў доларавым эквіваленце не перавышаюць адпускных цэн на масла айчыннай вытворчасці, што прадаецца за межы краіны ў летні час. Інакш кажучы, рознічныя цэны будуць залежаць ад росту курса долара, хаця ў валюце яны застаюцца ранейшымі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# У ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА -- НОВЫЯ НАМЕСНІКІ

Генеральны пракурор рэспублікі падпісаў загад аб назначэнні сваіх намеснікаў. Імі сталі Сцяпан Васільевіч Касуха, Міхаіл Валянцінавіч Снягір і Віктар Міхайлавіч Валюшка, якія працавалі да гэтага ў органах пракуратуры.

**БЕЛТА.**

*Дадатак 1 да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1996 г. № 561*

## Пералік лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года ў галіне навукі і тэхнікі

**У галіне гуманітарных і сацыяльных навук**

**Высоцкая** Надзея Фёдараўна, доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры крыніцазнаўства і музеязнаўства гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, загадчык аддзела старажытнага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, — за цыкл работ «Мастацтва Беларусі XII-XVIII стст.».

**Дробаў** Леанід Ніканоравіч, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык аддзела выяўленчага мастацтва інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Акадэміі навук Беларусі. **Сахута** Яўген Міхайлавіч, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Жук** Валерый Іванавіч, кандыдат мастацтвазнаўства, вучоны сакратар таго ж інстытута, **Карнач** Пётр Аляксеевіч, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута (пасмяротна), **Масленікаў** Павел Васільевіч, кандыдат мастацтвазнаўства, былы дацэнт кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў (пасмяротна), — за цыкл работ «Гісторыя беларускага мастацтва».

**У галіне прыродазнаўчых навук**

**Вайтовіч** Аляксандр Паўлавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, дырэктар Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, **Кавалёў** Анатоль Анатольевіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, намеснік дырэктара Інстытута электронікі Акадэміі навук Беларусі, **Машко** Васіль Вячаслававіч, кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, **Піліповіч** Уладзімір Антонавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, акадэмік, дырэктар Інстытута электронікі Акадэміі навук Беларусі, **Северыкоў** Валерый Мікалаевіч, доктар фізіка-матэматычных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Акадэміі навук Беларусі, — за цыкл работ «З'явы анізатрапіі ў лазерах і прынцыпы палярызацыйнай лазернай спектраскапіі».

**Карзюк** Віктар Іванавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, прарэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, **Радына** Якаў Валянцінавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, загадчык кафедры функцыянальнага аналізу механіка-матэматычнага факультэта таго ж універсітэта, **Юрчук** Мікалай Іосіфавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, загадчык кафедры ўраўненняў матэматычнай фізікі механіка-матэматычнага факультэта таго ж універсітэта, — за цыкл работ «Апаратарныя метады ў дыферэнцыяльных ураўненнях».

**Хрыпач** Уладзімір Аляксандравіч, доктар хімічных навук, загадчык лабараторыі хіміі стэроідаў Інстытута біяарганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі, **Жабінскі** Уладзімір Мікалаевіч, кандыдат хімічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Альховік** Вячаслаў Канстанцінавіч, кандыдат хімічных навук, навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Літвіноўская** Раіса Паўлаўна, кандыдат хімічных навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Завадская** Маргарыта Іванаўна, кандыдат хімічных навук, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, **Лахвіч** Фёдар Адамавіч, доктар хімічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі простагландзінаў таго ж інстытута, — за цыкл работ «Сінтэз, даследаванне і прымяненне брасінастэроідаў — новага класа гармонаў раслін».

**Гурын** Валерый Мікалаевіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік, акадэмік-сакратар Аддзялення медыка-біялагічных навук Акадэміі навук Беларусі, дырэктар Інстытута фізіялогіі Акадэміі навук Беларусі, — за цыкл работ «Механізмы тэрмарэгуляцыі ў норме і паталогіі».

**Сідарэнка** Георгій Іванавіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, галоўны навуковы кансультант Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, **Паланецкі** Леанід Захаравіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар, загадчык лабараторыі неадкладнай кардыялогіі таго ж інстытута, **Фралоў** Аляксандр Уладзіміравіч, доктар біялагічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, загадчык лабараторыі медыцынскіх інфармацыйных сістэм таго ж інстытута, **Нікіцін** Яраслаў Георгіевіч, доктар медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі парушэнняў рытму таго ж інстытута, **Міронмчык** Уладзімір Уладзіміравіч, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі электрафізіялагічных метадаў даследавання таго ж інстытута, **Вараб'ёў** Анатоль Паўлавіч, старшы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, — за цыкл работ «Стварэнне новых метадаў і апаратуры для дыягностыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў на аснове мікрапрацэсарных і камп'ютэрных тэхналогій».

**У галіне тэхнікі**

**Шурынаў** Валянцін Аляксеевіч, кандыдат тэхнічных навук, генеральны канструктар — начальнік Галоўнага спецыялізаванага канструктарскага бюро па комплексу кормаўборачных машын вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», **Дубіна** Аляксандр Аляксандравіч, кіраўнік сектара таго ж бюро, **Кузьмічэнка** Пётр Аляксандравіч, намеснік старшыні Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта, **Луцкая** Ірына Канстанцінаўна, доктар медыцынскіх навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, **Дарошкін** Леанід Канстанцінавіч, вядучы інжынер-канструктар Галоўнага спецыялізаванага канструктарскага бюро па комплексу кормаўборачных машын вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», — за стварэнне канструкцыі і арганізацыю вытворчасці уніфікаванага рада стаматалагічных комплексаў «Белдэнт».

**Грыгор'еў** Аляксандр Міхайлавіч, кандыдат тэхнічных навук, начальнік канструктарска-тэхналагічнага бюро перспектыўных распрацовак дзяржаўнага прадпрыемства завод «Электронмаш» дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна дакладнага машынабудавання «Планар», **Кляцкоў** Яўген Леанідавіч, начальнік участка штучных клапанаў сэрца таго ж прадпрыемства, **Кузьмічоў** Генадзь Паўлавіч, намеснік прэзідэнта дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна дакладнага машынабудавання «Планар», **Русецкі** Анатоль Максімавіч, прэзідэнт таго ж канцэрна, **Яновіч** Іван Пятровіч, начальнік навукова-вытворчага комплексу дзяржаўнага прадпрыемства завод «Электронмаш» дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна дакладнага машынабудавання «Планар», **Астроўскі** Юрый Пятровіч, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык лабараторыі хірургіі сэрца Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, — за распрацоўку штучных клапанаў сэрца, укараненне іх у медыцынскую практыку і арганізацыю серыйнай вытворчасці.

**За падручнікі**

**Гуськоў** Валерый Уладзіміравіч, доктар тэхнічных навук, прафесар кафедры «Трактары» Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, **Атаманаў** Юрый Яўгенавіч, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт кафедры «Трактары» той жа акадэміі, **Байкоў** Уладзімір Пятровіч, доктар тэхнічных навук, прафесар, загадчык кафедры «Трактары» той жа акадэміі, **Богдан** Мікалай Уладзіміравіч, доктар тэхнічных навук, загадчык кафедры «Гідрапнеўмааўтаматыка і гідрапнеўмапрывад» той жа акадэміі, **Бялоў** Сяргей Міхайлавіч, кандыдат тэхнічных навук, прафесар кафедры «Трактары» той жа акадэміі, **Ксяневіч** Іван Паўлавіч, доктар тэхнічных навук, прафесар, віцэ-прэзідэнт і акадэмік-сакратар секцыі «Машынабудаванне» Расійскай інжынернай акадэміі, — за цыкл падручнікаў і навучальных дапаможнікаў «Трактары» для вышэйшых навучальных устаноў.

**Дастанка** Анатоль Паўлавіч, доктар тэхнічных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі навук Беларусі, старшыня Вышэйшага атэстацыйнага камітэта Рэспублікі Беларусь, загадчык кафедры сучасных тэхналогій Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, **Пікуль** Міхаіл Іванавіч, кандыдат фізіка-матэматычных навук, прафесар кафедры сучасных электронных тэхналогій таго ж універсітэта, **Хмыль** Аляксандр Аляксандравіч, кандыдат тэхнічных навук, прафесар, дэкан канструктарска-тэхналагічнага факультэта і прафесар кафедры сучасных электронных тэхналогій таго ж універсітэта, — за цыкл падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па тэхналогіі вытворчасці ЭВМ, фізіка-хімічных і тэхналагічных дысцыплінах радыё- і электронна-вылічальнага профілю.

*Дадатак 2 да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 снежня 1996 г. № 561*

## ПЕРАЛІК лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

**У галіне літаратуры:**

***прэміі імя Якуба Коласа***

**Далідовіч** Генрых Вацлававіч, празаік, — за раман «Заходнікі»;

***за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва***

**Аніскавіч** Уладзімір Ігнатавіч, **Карызна** Уладзімір Іванавіч, **Лукша** Валянцін Антонавіч — за Бібліятэку дзіцячай літаратуры народаў СССР у 15 тамах (16 кнігах).

**У галіне мастацтва і архітэктуры:**

***за музычныя творы буйных і малых формаў, а таксама за канцэртна-выканальніцкую дзейнасць***

**Дамарацкі** Уладзімір Аляксандравіч, кампазітар, — за Канцэрт нумар 2 для трубы і вялікага сімфанічнага аркестра;

**Фінберг** Міхаіл Якаўлевіч, мастацкі кіраўнік і дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, — за канцэртныя праграмы 1992—1995 гадоў;

***за шырока прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў у пастаноўках тэатраў, кінастудый, на тэлебачанні і радыё***

**Елізар'еў** Валянцін Мікалаевіч, харэограф-пастаноўшчык і лібрэтыст, **Мдзівані** Андрэй Юр'евіч, кампазітар і аўтар музыкі, **Праватораў** Генадзь Панцеляймонавіч, музычны кіраўнік, **Окунеў** Вячаслаў Аляксандравіч, пастаноўшчык (сцэнаграфія), **Душкевіч** Інеса Анатольеўна, выканаўца ролі Рагнеды, **Фадзеева** Кацярына Юр'еўна, выканаўца ролі Рагнеды, **Захараў** Веніямін Міхайлавіч, выканаўца ролі князя Уладзіміра, **Далгіх** Уладзімір Вітальевіч, выканаўца ролі князя Яраполка, — за балет «Страсці» («Рагнеда»);

**Гаявая** Валянціна Іванаўна, балетмайстар, — за пастаноўкі «Па старонках «Полацкага сшытка», «Бывай, XX стагоддзе!»;

**Тураў** Віктар Цімафеевіч, кінарэжысер (пасмяротна), — за шматгадовы ўклад у нацыянальнае кінамастацтва;

**Марчук** Георгій Васільевіч, аўтар сцэнарыя, **Зайцаў** Дзмітрый Яўгенавіч, рэжысёр, **Спарышкоў** Уладзімір Пятровіч, аператар-пастаноўшчык, **Цітоў** Вячаслаў Аляксандравіч, выканаўца ролі Алеся Долі, — за мастацкі фільм «Кветкі правінцыі»;

***за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва, дызайну***

**Савіцкі** Міхаіл Андрэевіч, мастак, — за вялікі ўклад у выяўленчае мастацтва Беларусі і работы апошніх гадоў;

**Бараноўскі** Анатоль Васільевіч, мастак-жывапісец, — за цыкл жывапісных работ 1993—1995 гадоў «Далягляды Бацькаўшчыны»;

**Кішчанка** Аляксандр Міхайлавіч, мастак, — за манументальны габелен «Габелен стагоддзя».



## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, у паўночных раёнах невялікі снег. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Гродне — 12—14, Мінску — 14—16, Магілёве — 15—17, Брэсце — 17—19, Гомелі — 18—20 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, 29-га ўначы — у паўночных раёнах, а ўдзень 30-га і на паўднёвым захадзе невялікі снег. Тэмпература 29-га ўначы — 20—27, месцамі да 30—32, удзень — 14—19, на поўначы рэспублікі ўначы — 17—22, удзень — 8—13; 30-га ўначы — 19—24, месцамі да 29, удзень — 9—14 градусаў марозу.

**Паважаная Галіна Ціханаўна СІМАЛЬЧУК.**
**Ад усёй душы віншуем з юбілеем.**

Желаем здоровья, любви и тепла,
Чтоб все неудачи сгорели дотла,
Чтоб радость царила и не было слёз,
Свершилось всё то, что еще не сбылось.

***Родныя.***

# КАЛІ Ж ПРЫЕДЗЕ РЭВІЗОР?

**Запаветныя словы Ільіча аб тым, што «сацыялізм — гэта ўлік і кантроль», зноў набываюць былую актуальнасць у Беларусі.**

26 снежня пад старшынствам нядаўна прызначанага Генеральнага пракурора Алега Бажэлкі адбылася калегія рэспубліканскай пракуратуры. На ёй, у прыватнасці, абмяркоўваліся вынікі пракурорскіх праверак выканання заканадаўства аб захаванні ўласнасці ў калгасах і саўгасах, а таксама на прадпрыемствах Міністэрства прамысловасці краіны і сістэмы гандлю.

Як было адзначана на калегіі, падчас праверак было выяўлена шэраг сур'ёзных парушэнняў заканадаўства аб ахове дзяржаўнай і калектыўнай маёмасці пры ўборцы ўраджаю, нарыхтоўцы кармоў, захоўванні сельгаспрадукцыі.

У мэтах выпраўлення выяўленых парушэнняў заканадаўства органамі пракуратуры сёлета ўнесена кіраўнікам гаспадарак 135 прадстаўленняў, 7 пратэстаў, 113 службовых асоб папярэджаны аб недапушчальнасці парушэння закона, унесена 27 пракурорскіх прадпісанняў, накіравана 7 інфармацый у вышэйстаячыя службовыя інстанцыі. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнута 95 службовых асоб, да матэрыяльнай — 127, да адміністрацыйнай — 41.

Судамі рэспублікі за 9 месяцаў адыходзячага года было разгледжана 1420 крымінальных спраў па фактах крадзяжу сельгаспрадукцыі і тэхнікі. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 2189 чалавек, з якіх 40 — пазбаўлены волі.

Па згаданых крымінальных справах пракурорамі прад'яўлены 103 іскі на суму 662,2 мільёна рублёў, а ў парадку грамадзянскай судовай вытворчасці — 121 іск на 1 мільярд 715 мільёнаў рублёў.

На думку выступаўшых на калегіі супрацоўнікаў пракуратуры, прычыны ўсплёску крадзяжоў маёмасці і сродкаў на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу заключаюцца ў адсутнасці належнага ўліку і кантролю. Кіраўнікі шэрага гаспадарак, ігнаруючы патрабаванні заканадаўства, выкарыстоўваюць не па прызначэнню бюджэтныя і крэдытныя рэсурсы.

Нямала нараканняў прагучала на калегіі і ў адрас рэвізійных службаў. Інвентарызацыі і рэвізіі праводзяцца нярэдка са спазненем і не вельмі якасна, рэвізорамі не выяўляюцца прычыны недахопаў і страт сельгаспрадукцыі, кіраўніцтвам гаспадарак з вінаватых не спаганяецца матэрыяльны ўрон.

Зрэшты, выступаючы на калегіі, супрацоўнікі пракуратуры былі самакрытычнымі і шчыра прызналіся, што пасля распаду СССР раённыя пракуроры адмежаваліся ад кантролю за станам спраў у АПК. Фактычна праверкай захавання маёмасці ў калгасах і саўгасах мясцовыя пракуроры зноў заняліся толькі з мінулага года. Зараз органы пракуратуры спрабуюць больш дэталёва вывучыць стан спраў на сельгаспрадпрыемствах. Аднак для навядзення парадку ў гэтай галіне высілкаў толькі праваахоўных органаў недастаткова.

Так што пакуль класічнае «да нас едзе рэвізор» зусім не выклікае ў нядобрасумленных беларускіх начальнікаў такога страху, які апаноўваў расійскае чыноўніцтва сто і дзвесце гадоў таму.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## *Краткая информация об открытой подписке на акции третьего выпуска открытого акционерного общества «Сберегательный банк «Беларусбанк»*

Фирменное наименование:

- полное - Открытое акционерное общество «Сберегательный банк «Беларусбанк», г. Минск;

- сокращенное - Акционерный Сберегательный банк «Беларусбанк» (АСБ «Беларусбанк»).

Юридический и почтовый адрес банка: Республика Беларусь, 220050, г.Минск, ул.Мясникова, 32.

Банк зарегистрирован в Национальном банке Республики Беларусь 27 октября 1995 года под номером 56.

Учредителем банка от имени Республики Беларусь является Кабинет Министров Республики Беларусь.

Основными целями деятельности банка являются:

- развитие финансовых отношений в Республике Беларусь;
- улучшение банковского обслуживания физических и юридических лиц;
- привлечение во вклады свободных денежных средств;
- привлечение дополнительных ресурсов для осуществления инвестиций в экономически выгодные проекты развития жизненно важных отраслей экономики Республики Беларусь;
- стимулирование инвестиций в экономику Беларуси;
- содействие интеграционным процессам в сфере международных финансовых отношений;
- активное участие в перспективных проектах, направленных на решение экономических и социальных проблем;
- получение прибыли банком и его акционерами.

Предмет деятельности банка.

Во исполнение уставной деятельности банк осуществляет:

- привлечение денежных средств во вклады и депозиты;
- выдачу кредитов от своего имени за счет собственных и привлеченных средств, включая финансовый лизинг;
- расчетно-кассовое обслуживание клиентуры;
- инкассацию наличных денег и перевозку ценностей;
- валютные операции;
- управление денежными средствами по договору с собственником или распорядителем этих средств;
- выдачу за третьих лиц гарантий и поручительств, которые предусматривают исполнение в денежной форме;
- факторинг;
- лизинг;
- операции с ценными бумагами;
- сдачу в аренду специальных помещений или сейфов для хранения документов и ценностей;
- операции с драгоценными металлами: скупка, реализация и хранение юбилейных монет из драгоценных металлов;
- иные операции в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Подлежащие лицензированию операции банк вправе совершать только при получении специального свидетельства (лицензии) Национального банка Республики Беларусь или других уполномоченных государственных органов Республики Беларусь.

Прибыль за 11 месяцев 1996 года составила 101,6 млрд. рублей. Рентабельность Ч 4,6 % .

Динамика финансового состояния отражает основной курс развития банка, направленный на поддержание высоких темпов роста собственного капитала и освоение новых направлений при условии сохранения высокой надежности банка.

Объявленный размер уставного фонда акционерного сберегательного банка «Беларусбанк» составляет 286.018.168.000 (двести восемьдесят шесть миллиардов восемнадцать миллионов сто шестьдесят восемь тысяч) рублей и разделен на 286.018.168 (двести восемьдесят шесть миллионов восемнадцать тысяч сто шестьдесят восемь) именных акций номинальной стоимостью 1000 (одна тысяча) рублей каждая.

Сведения о предыдущих выпусках акций:

Акции первого выпуска распределялись следующим образом:

- 184.934.028 (сто восемьдесят четыре миллиона девятьсот тридцать четыре тысячи двадцать восемь) простых именных акций серии С-01 с № 000000001 по № 184934028 номинальной стоимостью 1000 (одна тысяча) рублей каждая на общую сумму 184.934.028.000 (сто восемьдесят четыре миллиарда девятьсот тридцать четыре миллиона двадцать восемь тысяч) рублей;

- 35.940 (тридцать пять тысяч девятьсот сорок) привилегированных именных акций серии Р-01 с № 00001 по № 35940 номинальной стоимостью 1000 (одна тысяча) рублей каждая на общую сумму 35.940.000 (тридцать пять миллионов девятьсот сорок тысяч) рублей.

Акции зарегистрированы в Инспекции по ценным бумагам Министерства финансов Республики Беларусь. Регистрационный № 5-200-01-2354 от 08.01.96 г.

Второй выпуск акций АСБ «Беларусбанк» состоял из 50.748.200 (пятидесяти миллионов семисот сорока восьми тысяч двухсот) простых именных акций серии С-02 с № 00000001 по № 50748200 номинальной стоимостью 1000 (одна тысяча) рублей каждая на общую сумму 50.748.200.000 (пятьдесят миллиардов семьсот сорок восемь миллионов двести тысяч) рублей.

Акции зарегистрированы в Инспекции по ценным бумагам Министерства финансов Республики Беларусь. Регистрационный № 5-200-01-3148 от 04.12.96 г.

Сведения о предстоящей подписке:

Третий выпуск акций АСБ «Беларусбанк» состоит из 50.300.000 (пятидесяти миллионов трехсот тысяч) простых именных акций номинальной стоимостью 1000 (одна тысяча) рублей каждая на общую сумму 50.300.000.000 (пятьдесят миллиардов триста миллионов) рублей.

Открытая подписка на акции АСБ «Беларусбанк» начинается со дня опубликования краткой информации в печати. Срок проведения подписки Ч один месяц. Подписка на акции осуществляется с 9.00 до 13.00, кроме субботы и воскресенья, по адресу: г. Минск, ул. Мясникова, 32, к.704 и филиалах банка.

Подписка прекращается досрочно и в подписке может быть отказано при условии достижения объявленного размера уставного фонда. В случае недостижения объявленного размера уставного фонда общее собрание акционеров может утвердить фактически набранный уставный фонд. При этом любой подписчик может заявить о своем выходе из общества в течение 15 дней со дня проведения собрания. В случае отказа от проведения подписки собранные средства возвращаются в месячный срок.

Взносы денежных средств на оплату акций будут зачисляться на счет № 6661000000035 в АСБ «Беларусбанк». Сохранность средств, аккумулируемых путем подписки, гарантируется до регистрации акций.

Основными направлениями использования средств, мобилизуемых путем выпуска акций являются:

- формирование собственного капитала Банка;
- выполнение уставных целей деятельности Банка;
- расширение спектра услуг, предлагаемых клиентам Банка;
- инвестиции в жилищное и капитальное строительство.

Подписка на акции проводится путем заключения договоров между подписчиками и банком, в которых указаны все условия приобретения и оплаты акций, а также оговорены права и обязанности подписчиков и эмитента.

Порядок начисления и выплаты дивидендов определяется собранием акционеров АСБ «Беларусбанк».

В случае отказа банка от выпуска акций средства акционеров возвращаются им в течение месяца со дня принятия такого решения.

С более подробной информацией и проспектом эмиссии можно ознакомиться в офисе центрального аппарата и филиалах АСБ «Беларусбанк» с 9.00 до 17.00, кроме субботы и воскресенья.

Председатель Правления АСБ «Беларусбанк» Н.А.ЕРМАКОВА

Главный бухгалтер АСБ «Беларусбанк» В.М.ГРОМЫКО

# Хто куды — а я ў Ждановічы.

# НА РЫНАК!

**За апошнія гады рынак (у сэнсе «базар») набывае ў нашым жыцці ўсё большае значэнне і на сённяшні дзень без перабольшання з'яўляецца дастойнай альтэрнатывай магазіннаму гандлю.**

**Сталічная рынычная сетка, ад міні-рынкаў да такіх гігантаў рэспубліканскага значэння, як Камароўка ці кірмаш на стадыёне «Дынама», абслугоўвае вялізную частку насельніцтва. І пры гэтым наўрад ці паміж імі існуе сур'ёзная канкурэнцыя. Бо тавар па рынках размяркоўваецца даволі раўнамерна, і сфарміраваны расклад на руку як пакупнікам, так і прадаўцам.**

Аднак з нядаўняга часу ў спакойна працуючых рынкаў з'явіўся малады сапернік, які ўпэўнена пацясніў сваіх старэйшых братоў. Размова — пра рынак у Ждановічах, які, нягледзячы на маладосць і некаторую аддаленасць ад гарадской рысы, актыўна заваёўвае папулярнасць у жыхароў не толькі Мінска, але і Мінскай вобласці.

Прычына хуткага поспеху хаваецца, відаць, у тэрытарыяльным і фінансавым патэнцыяле ждановіцкага волата. Усё ж 20 гектараў зямлі, аддадзеныя пад рынак, — не жартачкі. За асваенне выдзеленай прасторы ўзялося ЗАТ «ВАЗсервіс». Дзякуючы ўкладзеным фінансавым сродкам у кароткія тэрміны пабудавалі ўсе неабходныя аб'екты. І ў кастрычніку 1995 года рынак адчыніў свае вароты для першых пакупнікоў, сярод якіх, напэўна, было намнога больш проста цікаўных. Цікава ж даведацца: а што гэта такое? І што з усяго гэтага атрымаецца? Ад горада далекавата, пешшу не дойдзеш. Прычым падобныя думкі былі і ў пакупнікоў, і ў камерсантаў. Бо калі першым давядзецца дабірацца без рэчаў, дык другім неабходна везці яшчэ і тавар. Цяжкасці, як гаворыцца, у наяўнасці, і немалыя.

Мінулы год паказаў, што вырашыць гэтыя праблемы пад сілу адміністрацыі рынка. Транспартнае пытанне ўжо практычна вырашана. Цяпер да рынку «Ждановічы» ходзяць чатыры аўтобусныя маршруты. Па выхадных днях, а менавіта яны найбольш ажыўленыя на рынку, кожныя дзве хвіліны чарговы аўтобус дастаўляе порцыю разгарачаных штурханінай пакупнікоў. І штурханіна гэтая сведчыць хутчэй не пра малую колькасць транспарту, а пра ўзрослую папулярнасць рынку. Гэтым летам на чыгунцы, што праходзіць побач, адкрыўся прыпынак «Лебядзіны», якраз насупраць рынку, і кожная электрычка спыняецца тут. Так што ўсе жадаючыя без цяжкасцей змогуць дабрацца да ждановіцкага рынку.

Цяпер што датычыцца тавару, які дастаўляецца на рынак. Вядома, тыя, хто мае машыны, вязуць свае валізкі з сабой. Іх права. Але для тых, хто не мае аўтамабіляў, на рынку пабудаваны спецыяльны склад, дзе ў металічных кантэйнерах захоўваецца тавар камерсантаў. 500 тысяч рублёў у месяц — і поўны спакой гарантаваны. Павінен адзначыць, што па мінскіх расцэнках гэта вельмі недарагі спосаб захоўвання, пры тым, што надзейнасць стопрацэнтная.

Галоўныя праблемы паспяхова ліквідаваныя. Цяпер можна паглядзець, што ж уяўляе сабой сам рынак. Размешчаны ён уздоўж шашы і выглядае як выцягнуты прамавугольнік, адгароджаны бетоннай сцяной. У цэнтры — будынак адміністрацыі і мяжуючы з ім салон, дзе акрамя канторы па продажы аўтамабіляў «ВАЗ» размешчана некалькі гандлёвых фірмаў.

Сам рынак мае некалькі сектараў.

На сталах пад навесамі размешчаны рады радыётавараў. Дарэчы, пасля закрыцця Старажоўскага рынку ўсе гандляры радыёдэталямі знайшлі прытулак на Ждановіцкім рынку, і, па маіх асабістых звестках, ужо ўсёй краіне вядома, што менавіта тут можна набыць неабходны дыёд ці трыёд. Каштуе гандлёвае месца пад навесам 30 тысяч рублёў у дзень. Па словах прадаўцоў, гэта нармальна. Затое тавар на стале абаронены навесам. І месца хапае ўсім жадаючым. Далей ідуць рады гаспадарчых тавараў. Расцэнкі тыя ж, асартымент — самы разнастайны.

За гаспадарчымі таварамі — рады рэчавага рынку. Спачатку гэта стандартныя сталы пад навесам, шчыльна завешаныя таварам. За імі ў стройным парадку, што значна аблягчае рух, стаяць рэчавыя палаткі. Не сказаць што іх колькасць уражвае, але ўсё ж лічба ў 1500 гандлёвых месцаў — гэта нямала. І пры гэтым, па словах адміністрацыі, штомесяц на рэчавы рынак прыбывае 90—150 новых арандатараў. Адбываецца гэта па розных прычынах. Нехта не вытрымлівае сталічнай канкурэнцыі і шукае іншых шляхоў рэалізацыі тавару. Нехта, напалоханы размовамі аб хуткім закрыцці «Дынама», спяшаецца застрахавацца ад нечаканасцей, перабраўшыся сюды. Нехта недалёка жыве і вырашыў пачаць бізнес менавіта тут. У любым выпадку ждановіцкі рынак падрыхтаваны да наплыву прадаўцоў і ўжо цяпер мае запас асфальтаванай тэрыторыі для палатак на 3500 месцаў.

Крыху пра сам тавар. Вядома, пакуль на гэтым рынку цяжка знайсці звышмодную кофтачку ці мадэльны дарагі абутак. Тавар тут пераважна прасцейшы і разлічаны на сярэдні ўзровень пакупніка. Напэўна, таму едуць сюды пераважна людзі з невысокім даходам, спадзеючыся купіць рэч моцную ды танную. Модніц, якія азартна шукаюць звышмоднае адзенне, тут не сустрэнеш. У гэтым плане кірмаш на стадыёне «Дынама» і выстаўка ў Палацы спорту яўна лідзіруюць. Але, магчыма, да таго часу, калі запоўняцца ўсе запасныя месцы на ждановіцкім рынку, тут можна будзе сустрэць абсалютна ўсе катэгорыі пакупнікоў. Па словах прадстаўнікоў адміністрацыі рынку, неўзабаве менавіта так і будзе. Што ж, пажывём — пабачым.

— Як гандаль? — пацікавіўся я ў аднаго з хлопцаў, што стаяў ля палаткі з абуткам і світэрамі.

— Так сабе, — пацiснуў ён плячыма. — У выхадныя дні нармальна, у будні — пакуль не вельмі.

— Месца дорага каштуе?

— 850 тысяч рублёў у месяц — калі ва ўсе дні, калі толькі па выхадных — 600 тысяч. Зразумела, лепш на ўсе дні браць, розніца невялікая.

— Даўно бізнесам займаешся?

— Два гады ўжо. Я раней на «Дынама» стаяў, а летам вось сюды перабраўся.

— Няўжо тут лепш?

— Як табе сказаць? Гандаль, вядома, горшы, бо ў будныя дні, лічы, амаль нічога не прадаеш. Пакуль за кошт выхадных і маеш даход. Але, з другога боку, «Дынама» вось-вось закрыюць. Чуткі нездарма ходзяць. Усе пакупнікі — сюды, прадаўцы — таксама. А я ўжо тут, і палатка ў добрым месцы. Разумееш? Ды і танней тут намнога плаціш за арэнду.

— Атрымліваецца, што на перспектыву працуеш?

— Ну, не зусім так. Сёе-тое і цяпер зарабляю, інакш чаго стаялі б? Аднак уперад, канешне, глядзім з надзеяй.

Надзея — справа неблагая. А ўдача ў бізнесе — на першым месцы. Таму, пажадаўшы хлопцу ўдачы, я накіраваўся далей. Быў якраз выхадны дзень, народу хапала, нягледзячы на мароз. Мне падумалася, што цікава будзе пабываць праз год і паглядзець, ці здзейсніліся прадказанні адміністрацыі і спадзяванні прадаўцоў.

За палаткамі проста на зямлі размешчаны дробны тавар, які ў народзе завецца «усякая ўсячына». Вось дзе, сапраўды, людзі зарабляюць на кавалак хлеба. Напэўна, менавіта таму сярод іх пераважная большасць пенсіянераў. Плацяць яны за заняты метр 10 тысяч рублёў у дзень.

— Што вы не ідзяце на сталы пад навесы? — спытаўся я ў старога, які гандлюе крыху патрыманай сантэхнікай.

— Э, сынок, там 30 тысяч каштуе месца. А нам і на зямлі звыкла. Мы анучку рассцялілі — і прадаём.

Напэўна, людзям сапраўды ёсць за што дзякаваць ждановіцкаму рынку. Тут абсалютна ўсе могуць знайсці гандлёвую кропку. І гандлююць абсалютна ўсім.

Ёсць прадуктовыя і мясныя рады. Цэны — не вышэйшыя за камароўскія, а іншы раз нават і ніжэйшыя. Ёсць мэблевы рад. Ёсць рады, дзе прадаюцца птушкі і рыбкі. Гэта — таксама «бежанцы» са Старажоўскага рынку. Хочаш купіць сабаку ці кошку — іх таксама тут знойдзеш.

Па выхадных днях не менш за сотню аўтамабіляў выстройваюцца ў рады з размешчанымі на капотах аўтадэталямі. На тэрыторыі рынку працуе больш за 70 кіёскаў запчастак. А ў перспектыве плануецца 4,5 гектара зямлі аддаць пад аўтамабільны рынак. Ужо пачынаюцца будаўнічыя работы па ўладкаванню гэтага сектара рынку.

Неўзабаве адкрыецца вялікая станцыя тэхабслугоўвання аўтамабіляў. Дарэчы, тут жа, на ждановіцкім рынку, з сярэдзіны кастрычніка гэтага года адкрылася цэнтральная мытня. Цяпер усе аўтамабілі Мінска і Мінскай вобласці павінны праходзіць менавіта тут растаможванне.

Да прыёму патоку аўтамабіляў рынак гатовы. Ужо цяпер платныя стаянкі могуць абслужыць больш як 7 тысяч аўтамабіляў. Адзін сектар стаянкі, на 3 тысячы месцаў, ахоўваецца. Так што гасцей тут чакаюць і прыняць могуць дастойна.

А праз месяц будзе гатовы да эксплуатацыі крыты харчовы рынак на тысячы квадратных метраў. Па колькасці гандлёвых месцаў гэта прыкладна палова крытага Камароўскага рынку. У адміністрацыі ўжо ляжыць 200 заявак на арэнду гандлёвых месцаў. Трэба меркаваць, новы крыты рынак пуставаць не будзе, і як адно з асноўных падраздзяленняў усяго ждановіцкага рынку будзе спраўна прыносіць чакаемы прыбытак.

Увогуле, гэты юны волат — ждановіцкі рынак — расце не па днях, а па гадзінах. Яго памеры і універсальнасць прымушаюць думаць пра хуткае прасоўванне ў першы рад буйнейшых рэспубліканскіх рынкаў. І нават пра лідэрства ў гэтым радзе. Ва ўсякім разе, яго патэнцыял уражвае.

На маё пытанне, якія праблемы рэальна перашкаджаюць развіццю гэтага рынку, менеджэр камерцыйнага аддзела Віктар Шкляр адказаў:

— Хіба што надвор'е іншы раз перашкаджае гандлю. А ў астатнім — ніякіх праблем.

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

# Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Малумаў** Юрый Георгіевіч
*Члены камісіі*
**Аляксандраў** Валерый Міхайлавіч,
**Глухоўскі** Леанід Віктаравіч,
**Карпіевіч** Мікалай Фёдаравіч,
**Мікалуцкі** Яўген Пятровіч,
**Салаўёў** Анатоль Міхайлавіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 17-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь *пастанаўляе:*

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Ягораў** Уладзімір Дзям'янавіч
*Члены камісіі*
**Бань** Міхаіл Віктаравіч,
**Бікінін** Барыс Сцяпанавіч,
**Бурак** Віктар Канстанцінавіч,
**Варашнін** Уладзімір Мікалаевіч,
**Гаргун** Васіль Сцяпанавіч,
**Любавіцкі** Вячаслаў Віктаравіч,
**Снягір** Міхаіл Валянцінавіч,
**Хадневіч** Таццяна Мікалаеўна,
**Шпакаў** Сяргей Рыгоравіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходуРэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 18-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Красуцкі** Анатоль Віктаравіч
*Члены камісіі*
**Вронскі** Георгій Міхайлавіч,
**Кашкан** Георгій Міхайлавіч,
**Кузьма** Анатоль Фаміч,
**Лазавік** Мікалай Іванавіч,
**Пачэпка** Канстанцін Анатольевіч,
**Сасонка** Міхаіл Паўлавіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 20-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Кручкоў** Валянцін Пятровіч
*Члены камісіі*
**Волкаў** Анатоль Ягоравіч,
**Дуніч** Мікалай Уладзіміравіч,
**Пасечнік** Віктар Уладзіміравіч,
**Пагарэльскі** Леанід Вячаслававіч,
**Худая** Марыя Мікалаеўна.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 21-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях у наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Куцко** Мікалай Васільевіч
*Члены камісіі*
**Азарчанкаў** Аляксандр Міхайлавіч,
**Бяльковіч** Віктар Фёдаравіч,
**Камяк** Мікалай Міхайлавіч,
**Канашук** Іван Пятровіч,
**Кулік** Віталь Васільевіч,
**Луновіч** Аркадзь Яфімавіч,
**Мініч** Валерый Уладзіміравіч,
**Рымарчык** Іван Сяргеевіч,
**Розганаў** Аляксандр Іванавіч,
**Разынка** Пётр Міхайлавіч,
**Юхімук** Васіль Феадосьевіч,
**Яновіч** Аляксей Аляксандравіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 23-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Плецюхоў** Уладзімір Анесціевіч
*Члены камісіі*
**Драко** Валерый Уладзіміравіч,
**Ігнацішчаў** Руслан Міхайлавіч,
**Самусева** Валянціна Міхайлаўна,
**Шаршуноў** Вячаслаў Аляксеевіч,
**Шаўцоў** Мікалай Міхайлавіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 24-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту ў наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Гаварушкін** Станіслаў Мікалаевіч
*Члены камісіі*
**Александровіч** Уладзімір Аляксандравіч,
**Ананьеў** Раман Уладзіслававіч,
**Дубовік** Мікалай Мікалаевіч,
**Енка** Яўген Мікалаевіч,
**Лапкоўскі** Алег Міхайлавіч,
**Лектараў** Валерый Мікалаевіч,
**Пабяржын** Збышак Іванавіч,
**Ражко** Валянцін Аляксандравіч,
**Раманоўскі** Антон Аляксеевіч,
**Рудэнка** Віктар Пятровіч,
**Румо** Алег Васільевіч,
**Целябук** Ніна Пятроўна.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 25-П/І*

### Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД у наступным саставе:

*Старшыня камісіі*
**Рачкоў** Леанід Уласавіч
*Члены камісіі*
**Бялоў** Мікалай Адамавіч,
**Вінакурава** Марыя Міхайлаўна,
**Гарбуноў** Алег Аркадзьевіч,
**Грыгор'еў** Уладзімір Віктаравіч,
**Жушма** Пётр Яўгенавіч,
**Камай** Аляксей Сцяпанавіч,
**Козыр** Аляксандр Віктаравіч,
**Каратчэня** Іван Міхайлавіч,
**Касцян** Сяргей Іванавіч,
**Мірталоўскі** Генадзь Мікалаевіч,
**Пашкевіч** Іван Іванавіч,
**Шпілеўскі** Аляксандр Францавіч.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 27-П/І*

### Аб змяненні ў саставе Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вывесці з саставу Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі дэпутата **Вараніцкага** Рыгора Гаўрылавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ.**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 30-П/І*

### Аб змяненнях у саставе Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членамі Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню дэпутатаў **Вараніцкага** Рыгора Гаўрылавіча, **Дудко** Аляксандра Міхайлавіча, **Лук'яновіча** Васіля Пятровіча і **Мініча** Валерыя Уладзіміравіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ.**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 31-П/І*

### Аб змяненні ў саставе Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вывесці з саставу Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **Бурака** Віктара Канстанцінавіча ў сувязі з яго асабістай заявай.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 32-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па заканадаўству наступных дэпутатаў:

**Аляксандрава** Валерыя Міхайлавіча,
**Карпіевіча** Мікалая Фёдаравіча,
**Салаўёва** Анатоля Міхайлавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 33-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы наступных дэпутатаў:

**Бікініна** Барыса Сцяпанавіча,
**Хадневіч** Таццяну Мікалаеўну,
**Шпакава** Сяргея Рыгоравіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 34-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях эканомікі наступных дэпутатаў:

**Бекіша** Мікалая Іосіфавіча,
**Гукава** Івана Маркелавіча,
**Міхадзюка** Віктара Аркадзьевіча,
**Хрола** Васіля Пятровіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 35-П/І*

### Аб зацвярджэнні намесніка старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастофы, экалогіі і прыродакарыстанню

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню дэпутата **Худую** Марыю Мікалаеўну.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 36-П/І*

### Аб зацвярджэнні намесніка старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па бюджэту і фінансах дэпутата **Кругавога** Валерыя Кадашавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 37-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу наступных дэпутатаў:

**Ігнацішчава** Руслана Міхайлавіча,
**Самусеву** Валянціну Міхайлаўну,
**Шаўцова** Мікалая Міхайлавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ.**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 39-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу наступных дэпутатаў:

**Ігнацішчава** Руслана Міхайлавіча,
**Самусеву** Валянціну Міхайлаўну,
**Шаўцова** Мікалая Міхайлавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ.**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 39-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах наступных дэпутатаў:

**Аляксеенку** Генадзя Паўлавіча,
**Катлярова** Ігара Васільевіча,
**Свірыда** Аляксандра Уладзіміравіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 41-П/І*

### Аб зацвярджэнні намесніка старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях дэпутата **Камяка** Мікалая Міхайлавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*20 снежня 1996 г., г. Мінск. № 63-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД наступных дэпутатаў:

**Козыра** Аляксандра Віктаравіча,
**Касцяна** Сяргея Іванавіча,
**Шпілеўскага** Аляксандра Францавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск. № 42-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту наступных дэпутатаў:

**Александровіча** Уладзіміра Аляксандравіча,
**Ананьева** Рамана Уладзіслававіча,
**Лапкоўскага** Алега Міхайлавіча,
**Пабяржына** Збышака Іванавіча,
**Румо** Алега Васільевіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*18 снежня 1996 г., г. Мінск, № 40-П/І*

### Аб зацвярджэнні намеснікаў старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту наступных дэпутатаў:

**Вронскага** Георгія Міхайлавіча,
**Лазовіка** Мікалая Іванавіча,
**Сасонку** Міхаіла Паўлавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*19 снежня 1996 г., г. Мінск. № 46-П/І*

### Аб змяненні ў саставе Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Увесці ў састаў Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па правах чалавека і нацыянальных адносінах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **Бурака** Віктара Канстанцінавіча.

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**
*20 снежня 1996 г., г. Мінск. № 66-П/І*

## Дэпутаты і дыпламаты за ажыццяўленне адзінай знешняй палітыкі

**Днямі адбылося сумеснае пасяджэнне Камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і кіраўніцтва Міністэрства замежных спраў. У ім таксама ўдзельнічалі прадстаўнікі іншых парламенцкіх камісій, якія па роду сваёй дзейнасці часцей за іншых сутыкаюцца з міжнароднай праблематыкай.**

Мэтазгоднасць гэтай сустрэчы Леанід Рачкоў, старшыня міжнароднай камісіі парламента, абгрунтаваў неабходнасцю асабістага знаёмства членаў камісіі з кіраўніцтвам МЗС краіны, у ходзе якога і вырашана было абмеркаваць знешнепалітычную сітуацыю, у якой апынулася Беларусь пасля рэферэндуму. Бо, па словах Л. Рачкова, за мяжой не ўсе адназначна ўспрымаюць тое, што адбываецца ў нашай рэспубліцы. А некаторыя краіны даволі востра на гэта рэагуюць. Таму, на думку старшыні, было б правільна выпрацаваць агульную праграму дзеянняў парламентарыяў і супрацоўнікаў знешнепалітычнага ведамства. Што датычыць першых, то яны бачаць сваю задачу ў тым, каб без прамаруджвання ўключыцца ў еўрапейскую сістэму міжпарламенцкага супрацоўніцтва, розныя міжнародныя парламенцкія арганізацыі.

Ключавым момантам пасяджэння планавалася выступленне Уладзіміра Сянько, міністра замежных спраў. Безумоўна, ён, сёння самы кваліфікаваны беларускі спецыяліст у міжнародных справах, мог бы шмат чаго цікавага і карыснага паведаміць дэпутатам, калі б не прысутнасць журналістаў у зале. Уладзімір Лявонавіч, адчувалася, моцна рэдагаваў і стрымліваў сябе, у выніку чаго яго выступленне нагадвала пераказ агульнавядомых рэчаў ці, інакш кажучы, знешнепалітычны лікбез. Нарэшце, ён не вытрымаў і прызнаўся, што не ў яго правілах, нават пры ўсёй вялікай павазе да прадстаўнікоў СМІ, абмяркоўваць у іх прысутнасці сакрэты дыпламатычнай кухні.

Такім чынам, дэпутатам ды (і журналістам) моцна не пашанцавала — яны страцілі выдатную магчымасць зазірнуць за кулісы нашай дыпламатыі. Але ў 1997 годзе, трэба спадзявацца, дэпутаты ўсё ж здолеюць гэта зрабіць, а вось журналісты, хутчэй за ўсё, не.

Аднак і тое, што дазволіў сабе сказаць міністр, таксама выклікала цікавасць дэпутатаў. Ён выказаўся на карысць стварэння адзінай праграмы дзеянняў на бліжэйшую перспектыву. Сянько падкрэсліў, што цяпер важнасць сувязі палітыкі ўнутранай і знешняй як ніколі відавочная. І адносіны да Беларусі на міжнароднай арэне ў многім будуць залежаць ад нашых дзеянняў унутры краіны.

Складанасць сітуацыі у свеце пасля рэферэндуму тоіць пагрозу ў тым, што асобнымі ўплывовымі міжнароднымі структурамі могуць быць ажыццёўлены дзеянні па частковай палітычнай ізаляцыі Беларусі. А гэта было б вельмі непажадана. Таму і неабходны энергічныя агульныя дзеянні, каб не дапусціць падобнага ходу развіцця падзей.

Безумоўна, на пасяджэнні не маглі не закрануць тэму адносінаў з Расіяй. Цікавая акалічнасць: усе, хто выступаў, выказваліся за далейшае развіццё сувязей з Расіяй, але цвёрдыя былі ў неабходнасці захавання суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. У прыватнасці, аб гэтым гаварыў намеснік міністра замежных спраў Міхаіл Хвастоў. Ён заклікаў дэпутатаў ушчыльную заняцца знешнепалітычнай канцэпцыяй і нарэшце завяршыць яе шматгадовую распрацоўку. Гэта б выклікала павагу ў свеце да беларускага парламента. Таксама Хвастоў указаў на неабходнасць адкрыцця пасольстваў у некаторых краінах Азіі, дзе мы маем вялікія эканамічныя інтарэсы.

Увогуле, нягледзячы на прысутнасць прадстаўнікоў СМІ і стрыманасць міністра, адбыўся для першага разу даволі зацікаўлены абмен думкамі. Што і дазволіла Леаніду Рачкову назваць гэту размову плённай.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Якімі будуць пенсіі ў новым годзе?

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)**

Гранічная сума, якая прымаецца пры разліку заробку для далейшага налічэння пенсіі, роўная 1813044 руб. (1394649 руб. х 130 прац.). Сума, якая перавышае гэтую велічыню, не ўлічваецца. Абмежаванне адкарэкціраванага заробку па правілах часткі другой артыкула 56 Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні» (у новай рэдакцыі) ажыццяўляецца ў наступным парадку:

- 181.304 руб. х 100 % = 181.304 руб. — першая частка заробку;
- 181.304 руб. х 90 % =163.174 руб. — другая частка заробку;
- 181.304 руб. х 80 % = 145.043 руб. — трэцяя частка заробку;
- 181.304 руб. х 70 % = 126.913 руб. — чацвёртая частка заробку;
- 181.304 руб. х 60 % = 108.782 руб. — пятая частка заробку;
- 181.304 руб. х 50 % =90.652 руб. — шостая частка заробку;
- 181.304 руб. х 40 % = 72.522 руб. — сёмая частка заробку;
- 181.304 руб. х 30 % = 54.391 руб. — восьмая частка заробку;
- 181.304 руб. х 20 % = 36.261 руб. — дзевятая частка заробку;
- 181.304 руб. х 10 % = 18.130 руб. — дзесятая частка заробку.

Такім чынам, заробак, з якога налічваецца пенсія, у гэтым прыкладзе складзе 997.172 руб. (181.304 руб. + 163.174 руб. + 145.043 руб. + 126.913 руб. + 108.782 руб. + 72.522 руб. + 54.391 руб. + 36.261 руб. + 18.130 руб.).

Памер пенсіі ў студзені 1997 года пры стажы 45 гадоў у дадзеным выпадку будзе роўны 747.900 руб. (997.172 руб. х 75%), і ў параўнанні з пенсіяй у снежні 1996 года павялічыцца на 75.100 руб. Такім чынам, максімальны заробак, з якога налічваецца пенсія ў студзені 1997 года, роўны 997.172 руб., а максімальная пенсія пры стажы работы 45 гадоў у мужчын і 40 — у жанчын складзе 747.900 руб.

Устаноўленая ў памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту пастаянная даплата да мінімальных працоўных пенсій у студзені 1997 года павялічыцца на 6,3 працэнта мінімальнай пенсіі па ўзросту (зыходзячы з росту сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у лістападзе 1996 года ў параўнанні з зарплатай за чэрвень 1996 года на 9,6 працэнта, якая прымянялася ў снежні). Памер мінімальнай працоўнай пенсіі з даплатай складзе ў студзені 1997 года 343.800 руб. (пры стажы 45 гадоў — у мужчын і 40 — у жанчын).

Памеры прадугледжаных заканадаўствам надбавак і павышэнняў пенсіі ў студзені 1997 года налічваюцца ў працэнтных адносінах да мінімальнай пенсіі па ўзросту, якая ў снежні 1996 г. ўстаноўлена ў памеры 195.000 руб. (150 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы, якая складае 130.000 руб.).

Як указвалася вышэй, закон ад 6 лістапада 1996 года накіраваны на ўзмацненне дыферэнцыяцыі памераў пенсій ў залежнасці ад заробку пенсіянера і яго працоўнага стажу. Таму не ва ўсіх пенсіянераў у студзені 1997 года пенсіі павялічацца. У выпадках, калі пенсія, налічаная з улікам Закона ад 6 лістапада 1996 года, акажацца меншая, чым пенсія ў снежні 1996 года, яна будзе выплачвацца ў ранейшым памеры. Пры наступных пераразліках пенсіі будуць павышацца ўсім пенсіянерам у залежнасці ад росту сярэдняй заработнай платы.

Паводле разлікаў, у студзені 1997 года пенсіі у сярэднім узрастуць на 6 працэнтаў. Расходы на выплату пенсій у студзені павялічацца на 100 млрд. руб. і складуць 1580 млрд. руб.

Новы механізм разліку заробку для вылічэння пенсій адрозніваецца ад таго, што дзейнічаў раней і стаў ужо прывычным для пенсіянераў, і з'яўляецца даволі складаным. Аднак трэба адзначыць, што пераразлік пенсій органамі сацыяльнай абароны праводзіцца з прымяненнем электронна-вылічальнай тэхнікі, якая выключае магчымасць памылак пры разліку пенсіі.

*ПОГЛЯД*

# ШМАТГАДОВАЯ СОЛЬНАЯ ПАРТЫЯ

***Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, паводле звестак сацыёлагаў, пасля рэферэндуму стаў карыстацца яшчэ большай папулярнасцю***

Шматмесячная шырокамаштабная кампанія па падрыхтоўцы і правядзенню лістападаўскага рэферэндуму пайшла на карысць Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. За гэты час, у адрозненне ад сваіх палітычных апанентаў, ён значна ўмацаваў пазіцыі і памножыў шэрагі прыхільнікаў у шырокіх масах насельніцтва.

Калі б прэзідэнцкія выбары адбываліся ў бліжэйшы час, Аляксандр Лукашэнка, хутчэй за ўсё, перамог бы ўжо ў першым туры, прычым са значным адрывам ад канкурэнтаў. Менавіта да такой высновы схіляюць вынікі апытання грамадскай думкі, праведзенага ў сярэдзіне снежня сацыялагічнай лабараторыяй Андрэя Вардамацкага «Новак» па заказу «Белорусской деловой газеты». (У ходзе даследавання апытана каля 1000 жыхароў Беларусі, якія прадстаўляюць усе асноўныя слаі грамадства.)

За Аляксандра Лукашэнку выказалі гатоўнасць аддаць галасы 60,1 працэнта апытаных. Гэта — адзін з самых значных паказчыкаў за апошнія гады, які перавышае нават той высокі ўзровень папулярнасці, які быў у Аляксандра Лукашэнкі адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў улетку 1994 года. Варта нагадаць, што ў апошні год — да мінулага лета — рэйтынг Прэзідэнта вагаўся ў раёне 40-працэнтнай адзнакі. Дарэчы, усплёск папулярнасці Аляксандра Лукашэнкі меў месца і ў маі 1995 года, падчас першага рэферэндуму. З чаго няцяжка зрабіць выснову, што абвастрэнне палітычнай сітуацыі і актывізацыя апазіцыі, як правіла, толькі спрыяюць Прэзідэнту, які за мінулыя гады не раз дэманстраваў свае значныя здольнасці ў эфектнай барацьбе з апанентамі.

У апазіцыі па-ранейшаму няма асобы, здольнай скласці хоць якую-небудзь канкурэнцыю Аляксандру Лукашэнку. Пра гэта выразна сведчаць наступныя лічбы. На тое ж пытанне — пра найбольш прымальнага кандыдата на пасаду прэзідэнта — адказы рэспандэнтаў адносна іншых беларускіх палітыкаў размеркаваліся наступным чынам:

*Зянон Пазняк — 1,8 %;*
*Станіслаў Шушкевіч — 1,2 %;*
*Вячаслаў Кебіч — 0,9 %;*
*Сямён Шарэцкі — 0,8 %.*

Праўда, у Аляксандра Лукашэнкі даволі высокі і адмоўны рэйтынг — доля апытаных, якія не маюць намеру галасаваць за яго ні пры якіх абставінах. Паводле вынікаў апытання, такіх у снежні было 12,7 працэнта. Больш нядобразычліўцаў толькі ў Зянона Пазняка — 23,0 працэнта.

У астатніх беларускіх палітыкаў, імёны якіх вядомы шырокім народным масам, гэтыя паказчыкі наступныя:

*Станіслаў Шушкевіч — 9,4 %;*
*Вячаслаў Кебіч — 7,7 %;*
*Сямён Шарэцкі — 5,4 %;*
*Станіслаў Багданкевіч — 2,2 %.*

Вопыт мінулых двух з паловай гадоў, на працягу якіх Аляксандр Лукашэнка кіруе дзяржавай, схіляе да некалькіх важных высноў, без уліку якіх немагчыма дакладна прагназіраваць далейшы ход падзей у Беларусі.

Па-першае, відавочна, што на бліжэйшыя некалькі гадоў захаваецца ранейшая тэндэнцыя, калі паміж рэйтынгам Аляксандра Лукашэнкі і эканамічнай сітуацыяй у краіне не назіраецца прамой залежнасці. Як і два гады таму, у Прэзідэнта поўнасцю развязаны рукі. Больш таго, паводле новай Канстытуцыі, прынятай на рэферэндуме, ухіляецца нават гіпатэтычная магчымасць узнікнення дзейснай процівагі прэзідэнцкай уладзе.

Па-другое, няма ніякіх падстаў спадзявацца на тое, што падзеі ў Беларусі ўвайшлі ў ціхае рэчышча і далей нас чакае паступальны эвалюцыйны шлях рэфарміравання эканомікі. Стыхія вострай палітычнай барацьбы, як паказалі два мінулыя гады, — адна з асноўных крыніц папулярнасці Прэзідэнта і яго рухаючая сіла.

Па ўсім відаць, што самым папулярным заняткам наступнага сезона стане пошук новых формаў расійска-беларускай палітычнай інтэграцыі. Натуральна, што любая ініцыятыва Прэзідэнта Лукашэнкі на яшчэ больш цеснае збліжэнне з Расіяй выкліча процідзеянне з боку нацыянальна-дэмакратычных сіл, паколькі формай яшчэ больш цеснай інтэграцыі можа быць у лепшым для Беларусі выпадку — канфедэрацыя, у горшым — федэратыўны саюз, у якім нашай краіне з-за несувымерных з Расіяй маштабаў і значнасці будзе адведзена другарадная роля. Фактычна такое збліжэнне будзе азначаць скасаванне Беларусі як незалежнай дзяржавы.

Курс на палітычнае аб'яднанне без энтузіязму будзе сустрэты і сярод значнай часткі расійскай палітычнай эліты. Праявы гэтага можна назіраць ужо цяпер. Імя Аляксандра Лукашэнкі ўсур'ёз разглядаецца ў якасці найбольш верагоднага кандыдата на пасаду прэзідэнта новай, аб'яднанай з Беларуссю Расіі. І гэтыя разлікі зусім абгрунтаваныя. Паміж беларускім і расійскім электаратам няма істотнай розніцы. У выпадку, калі Аляксандр Лукашэнка атрымае шырокі доступ у расійскі тэле- і радыёэфір, — праз лічаныя тыдні ягоная папулярнасць у Расіі будзе прыкладна такой жа, як і ў Беларусі.

Гэта выразна ўсведамляюць тыя, хто не хацеў бы прыходу ў Крэмль беларускага Прэзідэнта. Ёсць важкія падставы меркаваць, што ў ліку першых асоб Расіі, хто апасаецца празмерна цеснага збліжэння з Беларуссю, знаходзіцца і Барыс Ельцын.

Расійскі Прэзідэнт, прымаючы 26 снежня рашэнне аб манапалізацыі алкагольнага рынку ў Расіі, не хаваў, што гэты крок у многім накіраваны супраць злоўжыванняў, якія дапускае ў адносінах да адзінай мытнай прасторы Беларусь. Ужо ні для каго не сакрэт, што паток таннага імпартнага алкаголю ішоў з Заходняй Еўропы ў асноўным праз нашу краіну. Прытым нізкая яго цана была абумоўлена ў многім тым, што некаторыя імпарцёры (у прыватнасці, дзяржаўная фірма «Торгэкспа») былі вызвалены ад мытных пошлін.

Больш як год Расія толькі злёгку ўшчувала наша кіраўніцтва за гэтыя кантрабандныя патокі. Аднак за мінулы год вытворчасць на лікёра-гарэлачных заводах Расіі знізілася напалову, а бюджэт з-за гэтага і з-за неатрыманых мытных пошлін штомесяц траціў па 2 трыльёны расійскіх рублёў. І Барыс Ельцын (паводле некаторых звестак, — пад моцным уплывам Анатоля Чубайса) увёў жорсткі кантроль над вытворчасцю і збытам алкаголю. У бліжэйшыя месяцы гэта істотна адаб'ецца на беларускім бюджэце: несумненна, што імпарт алкаголю ў Расію рэзка скароціцца, а беларускія спецімпарцёры страцяць звышпрыбыткі: уласна беларускі алкагольны рынак і вузкі, і слабы. Да таго ж Беларусь ужо і без таго падтрымала айчынных вытворцаў гарэлкі, падняўшы цэны на імпартны алкаголь на недасягальную для сярэдняга спажыўца вышыню.

Аднак адрэагаваць на такі не дужа дружалюбны крок з боку Расіі беларускаму кіраўніцтву наўрад ці выпадае. У Крамлі пачалі лічыць кожную капейку і дзеля сяброўства не збіраюцца ахвяраваць уласным кашальком.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# «Ілжэ-Смірноў» перадаў эстафету фальшывай «Пшанічнай»

**Гэта толькі законапаслухмяныя людзі, як правіла, чамусьці ўпарта не хочуць вучыцца на чужых і нават на сваіх памылках. Прадстаўнікі ж крымінальных структур «творча» выкарыстоўваюць вопыт сваіх папярэднікаў і, улічваючы чужыя промахі, пастаянна ўдасканальваюць сваё злачыннае майстэрства.**

**Найбольш яскрава і пераканаўча пацвярджаюць агромісты вынаходніцкі патэнцыял злачыннага свету вытворцы фальшывай гарэлкі. Прадукцыю некаторых падпольных гарэлачных заводаў сёння амаль немагчыма вонкава адрозніць ад фірменных напояў таго ж знакамітага завода «Крышталь». А гэта значыць, што ў беларускіх аматараў моцных напояў узрасла рызыка быць падманутым: нічога не падазраючы, набыць недабраякасны, небяспечны для здароўя тавар.**

**Асаблівую актыўнасць праяўляюць вытворцы фальшывай гарэлкі менавіта напярэдадні навагодняга свята. Што і не дзіўна, бо зараз традыцыйна ўзрос попыт на моцныя напоі.**

**Таму раім пачытаць гэты матэрыял усім, хто мае намер паставіць на навагодні стол не толькі бутэльку шампанскага, але і што-небудзь больш моцнае.**




### Тактыка падрыўных груп

Цяперашнія дзялкі нелегальнага гарэлачнага бізнесу, пэўна, былі б неблагімі падпольшчыкамі. Прынамсі, іх тактыка вельмі нагадвае дзейнасць падрыўных груп. Відаць, пасля таго, як супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС краіны «рассакрэцілі» шэраг даволі буйных падпольных гарэлачных заводаў, дзялкі гэтага ценявога бізнесу скемілі, што трэба мяняць тактыку. Так, апошнім часам на Беларусі, у гаражах, хлеўчуках і нават у кватэрах, узніклі нелегальныя «міні-заводы» па вытворчасці гарэлкі. Абслугоўваюць гэтыя «прадпрыемствы» звычайна ўсяго два-тры чалавекі. Але шкоду, якую наносяць бюджэту нашай дзяржавы і здароўю грамадзян гэтыя «фальшывагарэлачнікі», можна аднесці да разраду сапраўдных эканамічных дыверсій.

Зусім нядаўна супрацоўнікі УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў у адным з гаражоў, што знаходзіцца ў прыватным сектары Мінска, выявілі падпольны «цэх» па вытворчасці гарэлкі «Пшанічная».

Зрэшты, назва «цэх» для гэтага набору прымітыўных прылад занадта гучная. У памяшканні гаража знаходзіліся дзве бочкі: адна са спіртам, другая — з дыстыляванай вадой, а таксама самаробнае прыстасаванне для закаркоўвання бутэлек і наклейвання этыкетак. Абслугоўвалі «лінію» ўсяго два чалавекі.

Тым не менш, прадукцыю гэтага «міні-завода» вонкава было амаль немагчыма адрозніць ад арыгінала — гарэлкі мінскага завода «Крышталь». Сама вадкасць, што знаходзілася ў бутэльках, была такой жа празрыстай, як і сапраўдная фірменная гарэлка. Этыкеткі былі зусім як заводскія, на іх адваротным баку была праштампавана дата вытворчасці гарэлкі. Закаркоўваліся бутэлькі хоць і самаробным прыстасаваннем, але не горш, чым на дзяржаўным прадпрыемстве. Адзінае, што «выдавала ілжэ-гарэлку», — адсутнасць на корку спецыяльнага знака для маркіроўкі алкагольных вырабаў.

Па словах старшага оперупаўнаважанага УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў Мікалая КОТАВА, падобныя «міні-заводы», хоць і аснашчаныя прымітыўным абсталяваннем, здольныя выпускаць даволі вялікую колькасць фальшывай гарэлкі. Напрыклад, у вышэй памянёным падпольным «цэху» было канфіскавана 1600 бутэлек падробленай «Пшанічнай», а таксама 1,5 тоны спірту. Тут жа было знойдзена 15 пустых бочак з пад спірту ёмістасцю 200 літраў кожная.

Так што застаецца толькі здагадвацца, колькі фальшывай гарэлкі было выраблена на гэтым «дапатопным абсталяванні». А рэалізоўваецца такая прадукцыя, як адзначыў Мікалай Мікалаевіч, звычайна ў вёсках ці на гарадскіх вакзалах рознымі «карабейнікамі».

На думку Мікалая Котава, выяўлены ў сталіцы «міні-завод» па вытворчасці фальшывай гарэлкі, на жаль, не адзіны. Падобных «прадпрыемстваў» толькі ў Мінску не менш пяці.

Прычым гэтыя дробныя гарэлачныя «заводзікі», хутчэй за ўсё, належаць адной асобе ці групе «ценевікоў». Бо «аўтаномна» такія «прадпрыемствы» працаваць не могуць. Неабходна добра арганізаваная сістэма забеспячэння сыравінай, шклатарай, этыкеткамі, коркамі, прыладамі працы, а таксама сетка распаўсюджвальнікаў.

Дарэчы, сёння на Беларусі — ідэальныя ўмовы для наладжвання падпольнай вытворчасці фальшывай гарэлкі. Прынамсі, асноўнага кампанента гэтага напою — спірту — у нашай краіне зараз дастаткова, каб заліць «ілжэ-гарэлкай» не толькі Беларусь, але і еўрапейскую частку Расіі.

### Спіртавы транзіт

Беларускія «ценявыя» вытворцы гарэлкі некалькі гадоў таму добра зразумелі, якую выгаду ім можа прынесці само месцазнаходжанне краіны. І сёння з Прыбалтыкі, Украіны і нават Польшчы цякуць праз Беларусь цэлыя «спіртавыя рэкі». Звычайна гэты груз афармляецца як транзіт у Расію, але да тэрыторыі РФ спірт проста недавозяць, бо значна выгадней разбавіць яго на падпольных беларускіх «заводзіках» і рэалізаваць атрыманую гарэлку ці то ў Беларусі, ці ў той жа Расіі.

Да прыкладу, у сталіцы ў адным з дамоў прыватнага сектара два тыдні таму назад было выяўлена каля чатырох тон спірту.

У Гродзенскай вобласці нядаўна быў затрыманы жыхар адной з тамтэйшых вёсак, які нелегальна транспартаваў 2,5 тоны спірту «Royal». Пры вобыску на прысядзібным участку і ў гаражы гэтага кантрабандыста было канфіскавана самаробных спіртных напояў і прылад для іх вырабу на суму 200 тысяч долараў.

У Бярозаўскім раёне затрыманы жыхар вёскі Першамайская, які з прывезенага з Украіны спірту вырабіў 2 тысячы бутэлек фальшывай гарэлкі. Між іншым, гэты вытворца падробленай гарэлкі наклейваў на сваю прадукцыю этыкеткі Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода. Нядаўна ў Гомелі было затрымана некалькі грамадзян Украіны, якія спрабавалі рэалізаваць 400 літраў спірту па цане 55 тысяч рублёў за 1 літр.

Словам, наша краіна ператварылася ў калідор транзіту таннага і, вядома ж, не зусім якаснага спірту, што стварае выдатныя ўмовы для росквіту падпольных «прадпрыемстваў» па вырабу фальшывай гарэлкі.

Таму, як лічыць Мікалай Котаў, пакуль не будзе наведзены належны парадак на дзяржаўнай мяжы, праз якую завозіцца спірт на Беларусь, пакуль не ўдасца наладзіць строгі кантроль за выпускам прадукцыі на легальных беларускіх спіртзаводах, перамагчы «гарэлачную мафію» ў краіне ў хуткім часе наўрад ці будзе магчыма.

Праўда, супрацоўнікі УБЭЗ сёлета дасягнулі значных поспехаў на фронце барацьбы з гарэлачнай мафіяй. За перыяд з 1 студзеня па 13 снежня сёлетняга года работнікамі гэтай службы было канфіскавана спіртных напояў, незаконна ўвезеных і выраблених у Беларусі, на агульную суму больш як 40 мільярдаў рублёў.

І ўсё ж, як ужо адзначалася, фальшывай гарэлкі ў Беларусі зараз яшчэ нямала. Таму, каб засцерагчы сябе ад падману з боку вытворцаў «ілжэгарэлкі», раім прыслухацца да наступных парад.

### Шукайце зубра!

Адметна, што апошнім часам беларускія вытворцы фальшывай гарэлкі падрабляюць у асноўным толькі маркі айчынных моцных напояў. Гэта, відавочна, тлумачыцца тым, што раней наша краіна ўжо перажыла «нашэсце» фальшывых «смірновых», «распуціных», «пятровых» і іншых. Зараз недавер да замежных марак гарэлкі настолькі вялікі, што айчынныя аматары спіртнога асцерагаюцца іх купляць нават па самых смешных цэнах. «Ценевікі» адразу ж адчулі ўзрослы попыт на айчынныя алкагольныя вырабы і пачалі падрабляць менавіта прадукцыю нашых лікёра-гарэлачных заводаў.

Як ужо адзначалася, падробкі апошнім часам выконваюцца на даволі высокім узроўні і іх цяжка вонкава адрозніць ад арыгіналаў. І этыкеткі «фальшывагарэлачнікі» наклеюць не горш, чым на легальных заводах, і дату праштампуюць, і закаркуюць належным чынам.

Адзінае, што пакуль не ўдалося падрабіць «гарэлачнай мафіі», дык гэта спецыяльнага знака для маркіроўкі алкагольных вырабаў. Гэты знак быў уведзены з першага верасня гэтага года, і ўсе легальныя вытворцы гарэлкі ставяць яго на сваёй прадукцыі.

Таму, калі пры пакупцы вы сумняваецеся ў сапраўднасці гарэлкі, звярніце ўвагу на корак. На ім абавязкова павінны быць спецыяльныя абазначэнні, якія ўяўляюць сабой: графічны знак у выглядзе зубра, нумар ліцэнзіі прадпрыемства, нумар змены, нумар брыгады і дата вытворчасці.

А ўвогуле самы надзейны спосаб не трапіць на вуду вытворцаў фальшывай гарэлкі — набываць спіртныя напоі толькі ў легальных, салідных крамах, а не ў дробных шапіках, і тым больш — не з рук у прыватных гандляроў.

Тады не будзе невыносна цяжкім пахмелле пасля навагодніх і іншых святаў.

Будзьце здаровыя!

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

**Узор спецыяльнага знака для маркіроўкі алкагольных вырабаў**



## ПЕСНІ НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

**Меладычныя ўкраінскія песні. І перлінка сярод іх — «Ніч яка місячна, зоряна, ясная». у ёй — чароўнае зліццё паэзіі і музыкі. Верш Міхайлы Старыцкага (1840—1904) уражвае сваёй адухоўленай канкрэтнасцю і рамантычнай абагульненасцю.**

Паэт псіхалагічна пераканальна і па-мастацку ёміста перадае пачуццё кахання, якое ўзносіць асобу, робіць яе духоўна велічнай, недасягальнай («І над панами я пан»), уводзіць у дзівосны свет прыроды, адкрывае таямніцы хараства.

Гэтае трапяткое пачуццё, што жывіць закаханых, вымагае ад іх уважлівай самаахвярнасці, але ж адначасова выклікае і зайздрасць у іншых. Грамада не толькі сацыяльна неаднародная, але і духоўна разрозненая. У пагоні за знешняй утульнасцю пераважная большасць людзей адмаўляецца ад кахання, а потым усё жыццё пакутуе.

Таму не даруе яна ніводнага кроку закаханым, бо іх узнёслыя перажыванні вярэдзяць душу, прыносяць боль за свае згубленыя пачуцці...

Гучыць песня — і абуджае ў памяці імгненні спатканняў, трывожыць душу. А калі помнім — яшчэ кахаем, імкнёмся зрабіць наваколле больш светлым і чыстым.

Ва ўкраінскім вымаўленні гучыць «е» як беларускае «э», «є» — «е», «і» — «і», «ї» —йі», «и» — «ы», «щ» — «шч»; лякацца перакладаецца як палохацца.

**Рубрыку вядзе Міхась ШАВЫРКІН**




## НІЧ ЯКА МІСЯЧНА, ЗОРЯНА, ЯСНАЯ

*ВЕРШ Міхайлы СТАРЫЦКАГА*
*МУЗЫКА НАРОДНАЯ*

*Ніч яка місячна, зоряна, ясная!*
*Видно, хоч голкі збирай.*
*Вийди, коханая, працею зморена,*
*Хоч на хвилиночку в гай.*

*Сядемо вкупочці тут під калиною —*
*І над панами я пан!*
*Глянь, моя рибонько, — срібною хвилею*
*Стелеться полем туман.*

*Гай чарівний, ніби променем всипаний,*
*Чи загадався, чи спить;*
*Он на стрункій та високій осичині*
*Листя пестливо тремтить.*

*Небо незміряне, всипане зорями —*
*Що то за божа краса!*
*Перлами ясними он під тополями*
*Грає краплиста роса.*

*Ти не лякайся, що ніженьки босії*
*Вмочиш в холодну росу:*
*Я тебе, вірная, аж до хатиноньки*
*Сам на руках однесу.*

*Ти не лякайся, що змерзнеш, лебедонько,*
*Тепло — ні вітру, ні хмар...*
*Я пригорну тебе до свого серденька,*
*А воно палке, як жар.*

*Ти не лякайся, що можуть підслухати*
*Тиху розмову твою:*
*Нічка поклала всіх, соном окутала, —*
*Ані шелесне в гаю.*

*Сплять вороги твої, знуджені працею, —*
*Нас не сполоха їх сміх.*
*Чи ж нам, окраденим долею нашаю,*
*Й хвиля кохання — за гріх?*

## Усходні гараскоп

КАЗЯРОГ будзе заняты празнымі дзелавымі праектамі і меркаваннямі аб выгадным супрацоўніцтве, нягледзячы на навагоднія святы і зусім нерабочы настрой. Планеты раяць не ўзвальваць на сябе вельмі многа і даць папрацаваць сваім калегам па бізнесу. Дадатковым стымулам для гэтага будзе нездаволенасць дамачадцаў вашай празмернай загружанасцю на рабоце.

ВАДАЛЕЙ акажацца ў палоне роздумаў аб узлёце ўласнай кар'еры ў надышоўшым годзе. Добрым трамплінам для гэтага будзе падпісанне ў бліжэйшы час выгаднай здзелкі, якой суджана перавярнуць усё ваша жыццё. Паявіцца і значная сума грошай, якую заробіце на камісійных ці на гандлі. Больш цесна супрацоўнічайце са сваімі партнёрамі — выгада ад гэтага акажацца ўзаемнай.

РЫБАМ моцна пашанцуе ў ажыццяўленні сваіх патаемных задум і планаў. Вялікімі дывідэндамі «пагражае» заключаная ў мінулым годзе здзелка. Ваш бізнес будзе падобны на латарэю, але вам трэба будзе кожны раз выцягваць шчаслівы білет. Аднак не спяшайцеся з новымі пачынаннямі. Яны могуць прынесці лішнія праблемы, але не выгаду і задавальненне.

АВЕНЫ пачнуць год з энтузіязмам і аптымізмам. Паявіцца жаданне дасягнуць яшчэ большага і дабіцца поспеху. Планеты лічаць, што для гэтага вы валодаеце вялікім патэнцыялам. У астатнім усё будзе залежаць ад вас, а крышачку шанцавання зоркі вам абяцаюць. Дома ўсё будзе добра, аднак справы прымусяць ненадоўга забыць аб сардэчных захапленнях.

ЦЯЛЬЦЫ ўступяць у паласу перамен, аказаўшыся ў якой лепш за ўсё не спяшацца з сур'ёзнымі рашэннямі і прытрымлівацца тактыкі чакання. Пазбягайце ўзвальваць на сябе новыя абавязкі, а ў бізнесе пачынайце рухацца наперад з невялікіх крокаў і спраў. У дзяржаўных служачых настае перыяд стабільнасці, у спартсменаў перыяд сур'ёзных трэніровак, а ў закаханых наперадзе шчаслівы месяц.

БЛІЗНЯТ навагоднія ўрачыстасці выб'юць з дзелавой каляіны, у якую трапіць ім будзе суджана толькі праз тыдзень. Аднак у першыя дні студзеня чакайце добрых паведамленняў, якія датычаць вашага бізнесу. Іншыя дні спрыяльныя для праяўлення вашых талентаў, але не для вырашэння складаных праблем. Зоркі таксама раяць больш моцна трымацца за абаранак у час кіравання аўтамабілем.

РАКА чакае поспех у фінансавых справах і ўдача ў бізнесе. Будзьце напагатове і не прапусціце выгаднай здзелкі, якая яшчэ больш умацуе ваша становішча. Дзейнічайце старым праверанымі спосабам і пазбягайце навацый, на якія вас будуць штурхаць людзі, што акружаюць вас. Рызыка будзе непатрэбная таксама дзяржаўным служачым, якіх і так чакае павышэнне па службе.

ІЛЬВУ трэба будзе зрабіць важныя крокі для паляпшэння свайго фінансавага становішча. Гэтаму дапамогуць вашы аптымізм і вера ва ўласную шчаслівую зорку. Трэба будзе прыкласці шмат намаганняў, пабегаць па інстанцыях, але вынікі будуць узнагародай за ўсе клопаты. Удала складуцца і вашы сардэчныя справы — процілеглы пол не пакіне вас без сваёй увагі.

ДЗЕВА ў новым годзе адразу ж зробіць правільны стартавы ход і паправіць сваё становішча ў сферы фінансаў і бізнесу. Не бойцеся мяняць свае дзелавыя планы, нават калі навакольныя і партнёры не заўсёды гэта ўхваляюць. Абараняйце свае інтарэсы і не дазваляйце сабе трапляць пад чый-небудзь уплыў. Вы на правільным жыццёвым курсе, яго і прытрымлівайцеся.

ШАЛІ акажуцца пад грузам стомленасці, накопленай ў мінулым годзе. Тут самы час устрапянуцца і пастарацца забыць аб тым, што не здзейснілася, не завяршылася, засталося нявыкананым. Наперадзе ў вас новыя справы, думайце пра іх, а яшчэ аб каханым чалавеку. Адносіны з ім скора запатрабуюць важных рашэнняў, а якіх — думайце самі.

СКАРПІЁН нарэшце вызваліцца ад розных жыццёвых складанасцей. Наперадзе ў вас этап паспяховай дзелавой актыўнасці і ўдач у фінансавай дзейнасці. Зоркі, аднак, раяць быць асцярожным пры падпісанні дзелавых папер і дакументаў, а таксама пазбягаць вялікіх расходаў. Больш уважліва прыглядзьцеся да сваіх сяброў, ад якіх лепш трымацца як мага далей.

СТРАЛЕЦ пачне год у добрым настроі. Вы можаце быць упэўнены у паспяховым вядзенні сваіх спраў і рэгулярным даходзе, які будзе паступаць усе дванаццаць месяцаў. Але жыццё не абяцае быць спакойным. Трэба будзе перажыць напружаны этап на рабоце, пазбегнуць скандалу са сваімі калегамі і пераадолець іншыя перашкоды на шляху да поспеху.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР — ТАСС.**
*г. Дэлі.*




## КРЫЖАВАНКА

**По гарызанталях:** 2. Дзіцячая цацка, ёлачнае ўпрыгажэнне. 5. Жаночы персанаж камедыі Я. Купалы «Паўлінка». 6. Святочнае дзейства вакол навагодняй ёлкі. 10. Ападкі, дробны снег. 11. Электрапрылада для догляду бялізны, адзення. 13. Доля. 16. Грошы, каштоўнасці, схаваныя ад чужых вачэй. 18. Часовае паселішча вандроўнікаў. 19. Электрычны апарат для змены ўласцівасцей току. 24. Навагодні баль-вечар. 26. Медны музычны духавы інструмент. 27. Пісьмовае прывітанне ў гонар юбіляра. 28. Традыцыйны беларускі галаўны ўбор. 29. Каштоўны камень чырвонага колеру. 30. Славуты рускі байкапісец. 31. Палка, кій, да якога прымацоўваецца сцяг, вымпел. 32. Повар на марскім судне. 33. Навагодні атрыбут. 35. Пачуццё, рэакцыя, водгук. 37. Пустыня ў Паўднёвай Амерыцы.

**По вертыкалях:** 1. Прадмет хатняй мэблі. 3. Гарачы напой. 4. Твор мастацтва, звычайна дэкаратыўны. 6. Надакучлівае летняе насякомае. 7. Стол з нахіленай верхняй дошкай ў друкарні. 8. Мінерал, будаўнічы матэрыял. 9. Аповесць І. Шамякіна. 12. Рухомая частка электрычнай машыны. 14. Традыцыйнае навагодняе дрэва. 15. Натуральны або штучны матэрыял для апрацоўкі параненага месца. 17. Раслінная фарба для валасоў. 18. Рака ў Вялікабрытаніі. 20. Раздзел мовазнаўства. 21. Нанясенне на цела чалавека ўзораў, малюнкаў. 22. Традыцыйнае зімовае свята. 23. Метад навуковага даследавання. 25. Травяністая або паўкустовая расліна сямейства ружакветных. 26. Покрыўка кнігі, сшытка. 34. Самае пачэснае месца за сталом. 36. Раман І. Тургенева.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**
*г. п. Бялынічы.*

## НАВАГОДНЯЯ ВІКТАРЫНА

1. Хто першым з жыхароў Зямлі сустракаў Новы год у космасе?
2. Дзе на зямным шары знаходзяцца т. зв. «полюс холаду» і «полюс вятроў»?
3. Які год у гэтым стагоддзі налічваў не 365 або 366 дзён, а 352 дні і чаму?
4. Хто з драматургаў напісаў камедыю «Стары Новы год»?
5. «У лесе нарадзілася ёлачка». Гэтую песеньку ведаюць усе. Назавіце аўтараў яе слоў і музыкі.
6. Хто з рускіх кампазітараў напісаў оперы «Ёлка» і «Ёлачкін сон»?
7. Дзеянне трох кінафільмаў Э. Разанава адбываецца ў перадвавагоднія і навагоднія дні. Якіх кінафільмаў?
8. У якой паўднёва-усходняй краіне навагоднім дрэвам лічыцца не ёлачка, якая там не расце, а мандарынавае дрэва?
9. На якой з планет прыпалярная раўніна атрымала назву Снягуркі?
10. Якое імя носяць Дзяды-Марозы ў ЗША, Францыі, Аўстраліі, Венгрыі, Швецыі, Калумбіі, Фінляндыі?
11. У якой еўрапейскай краіне навагодняя казачная асоба выключна жаночага роду? Як яе завуць?
12. Паэма «Мароз, Чырвоны Нос». Хто яе напісаў?
13. Першае карнавальнае шэсце ў Расіі. Хто і калі яго наладзіў упершыню?
14. «Есть установка весело встретить Новый год». Якому галоўнаму персанажу і якога фільма належаць гэтыя словы?
15. Хто з'яўляецца аўтарам оперы «Марозка»?

Пытанняў тут пятнаццаць. Наколькі іх вы ведаеце ці знойдзеце ў даведачнай літаратуры правільны адказ?

**Даслала Ірына БЕКІШ, настаўніца са Шчучынскага раёна.**



## КОЛЬКІ АДРОЗНЕННЯЎ?

На гэтых двух малюнках да казкі пра навагодняе свята В. Сущэва ёсць некалькі адрозненняў. Колькі іх — пяць, восем, дзесяць? Паспрабуйце іх адшукаць.

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (21 снежня). По гарызанталях**: 1. Уток. 3. База. 5. Тралейбус. 8. Кава. 10. Лаўр. 12. Ананім. 13. Будан. 14. Устаў. 15. Кроква. 17. Ярмо. 21. Альт. 22. Акуліст. 24. Блакада. 27. Абязлічка. 29. Апарат. 32. Мілорд. 33. Снайпер. 35. Анапест. 36. Біс. 37. Ета. 39. Дэфензіва. 42. Аблічча. 45. Наватар. 49. Волава. 50. Затор. 51. Быт. 52. Эліпс. 53. Тырада. 56. Адасабленне. 57. Бухгалтэрыя. 61. Табель. 62. Азноб. 63. Ямб. 64. Бахча. 66. Трытон. 69. Прадукт. 71. Бяроста. 73. Анталогія. 75. Біч. 76. Дол. 79. Баклага. 80. Сапрана. 82. Анкета. 83. Біруза. 86. Напарстак. 91. Серабро. 92. Анафара. 93. Блік. 95. Віза. 97. Янычар. 98. Ідэал. 99. Факір. 100. Глісер. 101. Кант. 102. Баль. 103. Транспарт. 104. Века. 105. Агат. По вертыкалях: 1. Унія. 2. Кіно. 4. Азімут. 6. Авацыя. 7. Басмач. 9. Варвар. 10. Лава. 11. Рант. 12. Аманал. 16. Альбом. 18. Вір. 19. Галюцынацыя. 20. Бай. 22. Аканіца. 23. Тарпеда. 24. Балаган. 25. Авіятар. 26. Гама. 28. Здор. 30. Анабіёз. 31. Асананс. 34. Рыфма. 35. Агіда. 38. Гвалт. 40. Тыраж. 41. Завадатар. 43. Браканьер. 44. Чытальнік. 46. Алігархія. 47. Аўтарытэт. 48. Апалчэнне. 54. Хна. 55. Бут. 58. Абуза. 59. Амбулаторыя. 60. Стапа. 62. Андарак. 65. Асобіна. 67. Вітка. 68. Пегас. 69. Плінтус. 70. Талакно. 71. Бяспека. 72. Аколіца. 74. Авал. 77. Гмах. 78. Аказія. 81. Букса. 84. Армада. 85. Обь (рус. мова). 87. Павага. 88. Талака. 89. Сап. 90. Башлык. 93. Блок. 94. Кнот. 95. Вежа. 96. Азот.

## ВІНШАВАННІ

*Мінчанку* ***Насцю Катэра,*** *мілую ўнучку, з днём нараджэння і Новым годам шчыра віншуюць*

**Жалкоўскія з г. Ліды.**

*Віншую з днём нараджэння дарагую сяброўку* ***Іну Мікалаеўну Гронічаву*** *з в. Кругавічы. Шчасця і кахання табе!*

**Валянціна Мікалаеўна,** *в. Нача.*

*Віншуем з днём нараджэння* ***Ігара Мікалаевіча Місаўца*** *з в. Залужжа.*

«Пусть стороной тебя обходит зло,
Пусть каждый день становится желанным.
Хотим, чтобы тебе всегда везло
И счастье было гостем постоянным».

**Еўтуховічы.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Канстанціна Канстанцінавіча Янцэвіча. Жадаем здароўя, шчасця.*

**Бацькі, сёстры, браты, пляменнікі,** *г. Маладзечна.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 8108.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12